# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 37 (2231)

12 верасня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.



**Максім Багдановіч апярэджваў свой час. Як сапраўды вялікі паэт, ён бачыў і разумеў больш за звычайных людзей. Доўгі час мы не разумелі ў поўнай меры яго геніяльнасці, не вывучалі належным чынам яго бясцэнную літаратурную і навуковую спадчыну. Вяртанне Максіма Багдановіча адбываецца ў апошнія дзесяцігоддзе. Важкае і ўдзячнае слова будзе сказана пра паэта ў дзень яго 100-гадовага юбілею, падрыхтоўка да якога распачалася даўно. Адкрываюцца музеі і выставы, прысвечаныя М. Багдановічу, праводзяцца святы ў мясцінах, звязаных з яго імем. У самым пачатку верасня прайшла ўрачыстасць у вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна (на здымку).**

(Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).

РУСКА-БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## СЯРОД СЯБРОЎ У АМЕРЫЦЫ

У пачатку жніўня дэлегацыя Беларускага таварыства "Радзіма" па запрашэнню суайчыннікаў выехала ў ЗША для ўдзелу ў святкаванні Беларуска-рускага дня. Ён праводзіцца штогод Камітэтам газеты "Русский голос" — арганізацыі нашых землякоў, у якую ўваходзіць і многа беларусаў. У складзе дэлегацыі знаходзіліся артысты — салісты нацыянальнага тэатра оперы і балета Віктар Стральчэня і Людміла Крывёнак, кампазітар, заслужаны дзеяч культуры БССР Эдуард Зарыцкі і кіраўнік дэлегацыі — аўтар гэтых радкоў.

Ляцелі ў Нью-Йорк з Ленінграда, дзе нам давялося правесці ноч без сну ў няўтульным памяшканні аэрапорта Пулкава-2 у чаканні свайго рэйса. Большасць членаў дэлегацыі выязджалі ў ЗША ўпершыню і таму хваляваліся перад доўгім пералётам і будучымі сустрэчамі з суайчыннікамі. Аднак усё было ўдала: і пералёт перанеслі добра, і сустрэлі нас прадстаўнікі "Русского голоса" ў нью-йоркскім аэрапорце. Пераначавалі ў гасцінных Веры і Мікалая Гетманаў. На наступны дзень за намі прыехала суайчынніца, дачка беларусаў Вольгі і Фёдара Клімовічаў Дуня, якая па дарозе ў Араў-парк арганізавала нам экскурсійную паездку да статуі Свабоды. Яна ж была і нашым экскурсаводам. З цікавасцю слухалі мы яе расказ аб гісторыі стварэння статуі Свабоды і вострава, на

(Заканчэнне на 5-й стар.).



Дэлегацыя таварыства "Радзіма" ў Беларускім прадстаўніцтве пры ААН.

*НАТАТКІ ФІЛОСАФА*

## СУВЕРЭНІТЭТ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА

Праблема ўзаемаадносін такіх паняццяў, як нацыянальная культура і суверэнітэт, зусім новая для нашай навукі і дагэтуль не толькі не вывучалася ў нас, але і не ставілася. Аднак яна надзвычайна актуальная, асабліва зараз, калі перад намі ва ўсёй сваёй вастрыні паўсталі задачы адраджэння беларускай нацыянальнай культуры і ўстанаўлення і замацавання суверэнітэту Беларускай рэспублікі як самастойнага дзяржаўнага ўтварэння. Гэтыя дзве задачы складаюць, па сутнасці, адну задачу, задачу адраджэння і далейшага нармальнага развіцця беларускага народа ўвогуле, з яго ўласнай нацыянальнай культурай і ўласнай жа дзяржаўнасцю. Такі цэласны падыход да праблемы раней у нас неяк не ўсведамляўся, і выражалася яна фрагментарна, часта распадаючыся на паасобныя прыватныя пытанні.

Так, напрыклад, пытанні нацыянальнай культуры вывучаліся не толькі ў поўным адрыве ад такіх фактараў, як той жа суверэнітэт у дзяржаўна-прававым яго аспекце, але і ў пэўнай раздробленасці ўнутранай яе структуры. Гэта асабліва характэрна было для беларускай культуралогіі, дзе, напрыклад, гісторыя літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі, архітэктуры, фальклору і г. д. вывучаліся ізалявана адно ад другога, як нешта зусім самастойнае, а не як часткі адзінага цэлага, імя якому — беларуская нацыянальная культура. У яшчэ большай ступені адносіцца гэта да сучаснага бытавання нашай культуры, дзе, напрыклад, творчая дзейнасць у розных творчых саюзах праходзіць амаль што ў поўным узаемным адасабленні, а то і адчужанасці. Такое не толькі пагражае эклектыкай паасобным галінам і ўсёй нашай культуры ў цэлым, што ўжо можна назіраць і няўзброеным вокам, але вядзе і да страты агульнанацыянальнай спецыфікі яе. Пэўную ролю адыгрывае тут і бытуючае яшчэ, на жаль, традыцыйна сталінскае разуменне нацыянальнай спецыфікі культуры як толькі формы, у якасці якой выступае звычайна мова. І мова аказваецца такім чынам адзінай і прытым толькі знешняй прыкметай нацыянальнай самабытнасці нашай культуры. Атрымліваецца ў выніку, што сапраўды беларускімі могуць лічыцца толькі тыя галіны і віды культурнай дзейнасці, якія непасрэдна карыстаюцца мовай (літаратура, тэатр, кіно), ды і тыя ў нас не зусім беларускія, узяць хоць бы нашае кіно, рускамоўнае спрэс. Але мова не ёсць нешта толькі фармальнае, знешняе, падобнае да шыльды. Мова — гэта матэрыялізаванае мысленне, і Маркс тут напэўна ж не памыляўся. Як чалавек гаворыць, так ён і думае, а як ён думае, так і дзейнічае ў творчым працэсе: ці гэта стварэнне карціны альбо сімфоніі, ці рашэнне дызайнерскай праблемы. Гэта даўно ўжо было даказана Сэпірам і Уорфам. Таму ўся культура, а не толькі мова насычана нацыянальнай спецыфікай, калі гэта сапраўдная культура. І таму ж менавіта праблема захавання і далейшага развіцця беларускай мовы мае фундаментальнае значэнне

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ*

## ЗАЯВА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА

**"Мы пачынаем стварэнне сапраўды свабоднай, самастойнай Беларускай дзяржавы, — абвясціў Старшыня Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч у сваёй Заяве, якая была надрукавана ў прэсе. — З гэтага часу на тэрыторыі Беларускай ССР дзейнічаюць толькі законы рэспублікі. І я даводжу гэта да ведама ўсіх органаў улады і кіравання, усіх службовых асоб, незалежна ад таго, каму яны раней падпарадкоўваліся.**

**Адначасова заяўляю, што з боку ўрада будуць прымацца ўсе неабходныя меры для безагаворачнага выканання законаў Беларусі, пастаноў і распараджэнняў Вярхоўнага Савета рэспублікі і Савета Міністраў БССР, усіх раней прынятых абавязацельстваў па міжрэспубліканскіх і міжнародных пагадненнях.**

**Хачу таксама падкрэсліць, што мы не пойдзем ні на якія крокі па перагляду цяпер існуючых граніц. І ў нас няма ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да нашых суседзяў.**

**Незалежнасць — гэта не толькі свабода думак і дзеянняў. Гэта яшчэ і велізарная адказнасць за ўсё, а найперш за нармальнае функцыяніраванне народнагаспадарчага комплексу рэспублікі. Мы будзем паслядоўнымі ў сваіх дзеяннях па ажыццяўленню антыкрызіснай праграмы і абароне насельніцтва рэспублікі ад розных сацыяльных узрушэнняў".**

*МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ*

## СУСТРАКАЮЦЦА ЭКСПЕРТЫ

**2—3 верасня ў Мінску адбылася чарговая сустрэча беларускіх і польскіх экспертаў па пытаннях двухбаковага супрацоўніцтва.**

**На ёй быў абмеркаваны і ўзгоднены тэкст праекта дэкларацыі аб добрасуседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Польшчай. Пасля адабрэння дэкларацыі ў адпаведнасці з прадугледжанай працэдурай яна будзе падпісана міністрамі замежных спраў абедзвюх дзяржаў.**

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## ЦАРКОЎНАПРЫХОДСКІЯ ШКОЛЫ

**Благаславенне на добрую вучобу і хрысція[illegible]я паводзіны атрымалі многія салігорскія школ[illegible]кі на пачатку навучальнага года ад настаяцеля Свята-Пакроўскай царквы брата іерэя Мікалая. Пры царкве ў горадзе адкрылася нядзельная царкоўнапрыходская школа. 116 дзяцей будуць займацца ў дзвюх узроставых групах: малодшай — для дзяцей ад 6 да 10 і старэйшай — ад 10 да 14 гадоў. На занятках дзеці будуць спасцігаць Катэхізіс, Закон Божы, Літургію, правілы выканання царкоўных абрадаў і служэнняў.**

**Такія ж нядзельныя царкоўныя школы адкрыліся і ў гарадскіх пасёлках Старобін і Чырвоная Слабада.**

*СУВЕРЭНІЗАЦЫЯ*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ВОЙСКА

**Адбыўся сход Беларускага згуртавання вайскоўцаў, якім кіруе каардынацыйная Рада на чале з падпалкоўнікам Мікалаем Статкевічам. Абмеркавана дзейнасць новай нефармальнай арганізацыі ў перыяд путчу. Разгледжаны пытанні структуры згуртавання і парадак яго дзейнасці, прыняты статут. Вырашана ў самы бліжэйшы час склікаць з'езд вайскоўцаў Беларусі.**

**Галоўная мэта згуртавання — усемагчымае садзейнічанне стварэнню беларускага нацыянальнага войска.**

*БЕЛАРУСЬ — УКРАІНА*

## РАТЫФІКАЦЫЯ ДАГАВОРА

**31 жніўня ў Кіеве міністры замежных спраў БССР і Украіны абмяняліся граматамі аб ратыфікацыі дагавора паміж дзвюма рэспублікамі. Ацэньваючы гэтую падзею, Анатоль Зленка, міністр замежных спраў Украіны, выказаў упэўненасць, што Украіна і Беларусь будуць цвёрда выконваць узятыя на сябе абавязацельствы.**

**Пётр Краўчанка, міністр замежных спраў БССР, заявіў, што з'явілася магчымасць больш дынамічна рэалізаваць Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце.**

**Дагавор утрымлівае комплекс артыкулаў, якія прадугледжваюць тэрытарыяльную цэласнасць рэспублік і развіццё больш шырокіх эканамічных сувязей. Украіна для нас — адзін з асноўных гандлёвых партнёраў.**

*"Аўтарытэт з боку іншых народаў, ды і сябе саміх здабудзем толькі тады, калі хутка і ўпэўнена рушым у сваіх рэформах. Ці будзе так? Калі шчыра, то ўпэўненасці няма. Бо шмат дзе той станавы хрыбет — малярухомая, нягнуткая, аджыўшая ваенна-камуністычная структура, што прасякнула нас ад Масквы да самых да ўскраін, — яна шмат дзе мімікрыравала, перафарбавалася, але, вядома, не змянілася. Нам патрэбен урад з сучасным, рыначным мысленнем. Гэта не даецца адным днём. Так, у нас ёсць здольныя, прадпрымальныя, новага эканамічнага мыслення людзі, але пакуль што яны не надта ўлягаюць у палітыку, не надта імкнуцца праявіць сваю грамадзянскасць, а дбаюць найперш пра тое, каб недзе злаўчыць, нешта сабе адхапіць. Мне ўяўляецца, мала радасці ў такіх набытках, калі мы не паклапоцімся пра галоўны свой набытак — вольны заўтрашні дзень. Вольны ад эксперыментаў над чалавекам і над здаровым сэнсам. Каб ён, гэты дзень, быў няхісткі, сталы. Яго здабудуць толькі людзі дэмакратычнай ідэі. Думаю, што такія людзі праявяць сябе падчас новых выбараў".*

*Пётра САДОЎСКІ, Старшыня Пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях.*

*ДЗЕНЬ ПРАСЛАЎЛЕННЯ*



**"Я бачу вышэйшую Боскую волю і заступніцтва Царыцы нябеснай у тым, што менавіта ў Дзень праслаўлення Мінскай цудатворнай іконы Божай маці Беларусь зрабіла рашучы і смелы крок, аб'явіўшы аб сваім дзяржаўным суверэнітэце". Гэтыя словы прагучалі 26 жніўня ў Мінскім кафедральным Свята-духавым саборы. Іх сказаў, звярнуўшыся да веруючых, свяшчэннаслужыцеляў і кіруючых архірэяў Беларускай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, народны дэпутат СССР і БССР.**

**— З 1500 года ў Мінску знаходзіцца святыня — цудатворны абраз Божай маці, і Царыца нябесная нябачна распасцірае над горадам гэтым і зямлёй беларускай сваё покрыва, — працягваў уладыка. — Мы перажылі дні, якія паставілі нас на мяжу катастрофы, калі гатова была адрадзіцца дыктатура, калі былі растаптаны канстытуцыйныя асновы і пераварот вяртаў нас да сумных гадоў сталінізму. Міласцю Боскай і заступніцтвам Царыцы нябеснай гэтая бяда мінавала нас. Але ў краіне і ў грамадстве яшчэ мноства праблем, якія могуць быць вырашаны, толькі калі кожны народ і народнасць у Айчыне нашай пачнуць адчуваць сябе вольнымі. І ўсе будуць адзінымі. Толькі калі кожная рэспубліка ажыццявіць сваё законнае права на суверэнітэт, тады і будуць самастойныя дзяржавы, якія знаходзяцца ў межах нашага грамадства, вырашаць пытанне аб шляхах свайго супрацоўніцтва, улічваючы гістарычныя лёсы сваіх народаў".**

**НА ЗДЫМКУ: у час літургіі.**

*ПЕРАД 46-й СЕСІЯЙ ГА ААН*

# ШТО БУДЗЕМ БАРАНІЦЬ?

Перад пачаткам прэс-канферэнцыі, прысвечанай удзелу беларускай дэлегацыі ў 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, Пётр Краўчанка, міністр замежных спраў БССР, даў інтэрв'ю карэспандэнту Цэнтральнага тэлебачання. Маскоўскі карэспандэнт, прадстаўляючы нашага міністра, зрабіў істотную заўвагу: П. Краўчанка сёлета едзе ў Нью-Йорк як міністр суверэннай, незалежнай дзяржавы. Але слухаючы пра намеры і планы дэлегацыі, задачы нашай дыпламатыі, я не заўважыў амаль што нічога новага, нічога такога, што б гаварыла аб нейкім павароце ў знешняй палітыцы Беларусі. Тыя ж напрамкі дзейнасці, што былі вызначаны і летась: чарнобыльская праблема, комплекс пытанняў эканамічнага плана, далейшыя кантакты з эміграцыяй, пошукі крыжа Ефрасінні Полацкай. Гэтае маё расчараванне ў нейкай меры кампенсаваў адказ міністра на пытанне аднаго з журналістаў. З рэзюме вынікала, што наша МЗС суверэннае, прынамсі, ужо год, міністра зацвярджаў Вярхоўны Савет рэспублікі, а не прыслаў Цэнтр, міністэрства выконвае толькі распараджэнні свайго ўрада, а не Масквы.

Дык з чым жа едзе беларуская дэлегацыя ў Нью-Йорк? Якія нацыянальныя інтарэсы будзе бараніць, выступаючы перад сусветнай супольнасцю з высокай трыбуны ААН?

Самы важны, самы галоўны напрамак дзейнасці, падкрэсліў П. Краўчанка, гэта, як і год назад, чарнобыльская праблематыка. У апошні час стала відавочным, што краіна — СССР — пакінула нас сам-насам з бядой. За пяць гадоў Беларусь атрымала з саюзнага бюджэту па лініі Міністэрства аховы здароўя прыкладна 2,6 мільёна інвалютных рублёў. Гэта менш, чым кропля ў моры: штогод для ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай трагедыі рэспубліцы патрабуюцца 75 мільёнаў долараў. Штогод!

Візіт Прэзідэнта СССР М. Гарбачова сёлета ў сакавіку на Беларусь нічога нам не даў. Як не меў ніякага выніку і зварот прэм'ер-міністра В. Кебіча: на яго ліст канцылярыя Прэзідэнта нават не адказала хаця б дзеля прыстойнасці. Наогул, стаўленне Цэнтра да Беларусі ўсё ж дзіўнае, калі не сказаць — брыдкае. Пры размеркаванні імпартных лекаў у першым паўгоддзі гэтага года Расія атрымала 56 працэнтаў, Украіна — 25, Літва — 6,9, а Беларусь — толькі 5,8 працэнта лекаў.

— Ёсць яшчэ мноства дзіўных і здзеклівых для Беларусі момантаў, — сказаў П. Краўчанка, — якія вымушаюць нас дзейнічаць больш актыўна.

20 верасня ў штаб-кватэры ААН адбудзецца канферэнцыя краін-донараў, у якой павінны прыняць удзел міністры замежных спраў самых буйных краін. Але вялікіх надзей на яе наш міністр не ўскладае: развітыя краіны свету пакуль што нам дапамагаць не збіраюцца. Тым большыя намаганні давядзецца прыкласці нашай дэлегацыі.

Яшчэ адным важным напрамкам дзейнасці беларускіх дыпламатаў (а, відаць, толькі яны сёлета будуць удзельнічаць у рабоце Генеральнай Асамблеі, на гэты раз не плануецца ўключаць у склад дэлегацыі "сенатараў" і прадстаўнікоў прэсы, Саюза пісьменнікаў) будуць няпростыя фінансавыя дачыненні Беларусі з ААН.

— Мы заўсёды плацілі вялікі ўзнос у ААН, — адзначыў П. Краўчанка. — У 1991 годзе ён складае 0,33 працэнта ад агульнага бюджэту. А гэта больш, як 3 мільёны долараў. Гэта лічба — адна з самых высокіх у свеце. Ізраіль уносіць толькі 0,22 працэнта, а багаты Кувейт — усяго 0,29 працэнта агульнага бюджэту ААН.

Улічваючы, што Беларусь, як ніхто, пацярпела ад Чарнобыля, ёй павінен быць зменшаны працэнт узносу. Гэтага і будзе дамагацца рэспубліка праз ААН.

Дзеля справядлівасці варта падкрэсліць, што з прыходам у МЗС новага міністра больш увагі надаецца папулярызацыі ў свеце праз ААН культурнай спадчыны Беларусі. Напэўна, у Нью-Йорку многія памятаюць той вечар, што быў праведзены ў штаб-кватэры Міжнароднага супольніцтва летась, прысвячаўся ён вялікаму асветніку Францішку Скарыне. Сёлета ж не менш славутае імя адкрыецца свету — у будынку ААН адбудзецца вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

Як і мінулай восенню, беларуская дыпламатыя вядзе актыўныя пошукі нацыянальных каштоўнасцей, якія былі вывезены на Захад ці зніклі ў вайну. У прыватнасці, зноў будзе прадоўжаны пошук нашай рэліквіі — крыжа Ефрасінні Полацкай. Міністр асабліва падкрэсліў, што намаганнямі МЗС і МУС БССР да росшукаў крыжа падключаны Інтэрпол. Даныя аб крыжы Ефрасінні Полацкай зарэгістраваны ў фармулярах пад № 34-1130 у камп'ютэрным цэнтры ў Ліоне. Нагадваем гэты нумар на той выпадак, калі хто-небудзь мае якуюсьці інфармацыю на гэты конт і хацеў бы паведаміць — ён можа накіраваць яе па ўказанаму нумару ў Ліон.

Ну а што датычыцца суверэнітэту, то першай ластаўкай, якая прыносіць добрую надзею, з'яўляецца тое, што з 1 жніўня прыступіў да выканання сваіх абавязкаў Генеральны консул Беларусі ў Нью-Йорку Уладзімір Сакалоўскі. Ёсць таксама надзея, што неўзабаве там жа будзе адчынена гандлёвае прадстаўніцтва БССР.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**



Разам з беларускімі дыпламатамі на 46-ю сесію Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый вылецеў у Нью-Йорк і наш вядомы мастак А. Кішчанка. Калі нічога не зменіцца, то 19 верасня ў будынку ААН на Іст-рывер адбудзецца прэзентацыя габелена "Чарнобыль". Гэта дарунак беларускай дзяржавы і беларускага народа ААН. Аўтар яго — мастак А. Кішчанка — і будзе прысутнічаць на прэзентацыі. Зроблены габелен на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва за рэкордна кароткі час — 9 месяцаў. І зроблена гэта рукамі Людмілы Слабкоўскай, Наталлі Шварц, Таццяны Патаповіч, Ірыны Паланевіч. Цяпер габелен "Чарнобыль" будзе нагадваць дзяржавам, якія ўваходзяць у сусветнае супольніцтва, аб нашай рэспубліцы.

НА ЗДЫМКУ: габелен "Чарнобыль".

*СВЕТ І МЫ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

# "НЕ ЧАКАЙЦЕ КАТАСТРОФЫ, ЯНА ЎЖО ПРЫЙШЛА!"

**Гэтыя словы, бязлітасныя самі па сабе, здаліся зусім ужо суровымі, не пакідаючымі ніякай надзеі, калі прагучалі пад пяшчотны акампанемент птушынага шчэбету і бесклапотнага дзіцячага смеху.**

На жаль, успаміны аб Булонскім лесе цяпер заўсёды будуць звязаны ўва мне з гэтай змрочнай канстатацыяй члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, прафесара, доктара біялагічных навук Уладзіміра Саўчанкі, які лічыць, што сёння няма праблемы больш важнай, чым экалагічная. Страта біялагічнай разнастайнасці, пацяпленне, азонавыя дзіры, шум, хімія, нарэшце, глабальнае радыяцыйнае паражэнне — усё гэта ўжо цяпер ставіць свет на мяжу катастрофы.

Бестурботнай прагулкі не атрымалася. Тут, дзе пабываць мараць многія, мы зноў і зноў вярталіся ўсё да тых жа экалагічных праблем, а значыць, і дадому, у Беларусь. Да нашага болю. Да нашых бедаў. Да нашага Чарнобыля. Уладзімір Саўчанка, які вось ужо год працуе ў Парыжы, у аддзеле экалагічных навук ЮНЕСКА, не толькі не страціў вастрыні ўспрыняцця красавіцкай трагедыі 1986 года, але, як мне здалося, дапоўніў сваё бачанне гэтай праблемы новымі нюансамі.

— У Францыі,— лічыць ён,— чарнобыльскую аварыю многія людзі прынялі вельмі блізка да сэрца. Але на ўзроўні ўрада, як і ў нас у рэспубліцы, не толькі не спяшаліся з дакладнай інфармацыяй, але і ўсяляк прыменшалі небяспеку таго, што здарылася. Так было, зрэшты, і ў іншых краінах, напрыклад у Англіі. Шырокае развіццё ядзернай энергетыкі ставіць сур'ёзныя бар'еры на шляху праўды аб трагедыі, значыць, і на шляху ліквідацыі яе вынікаў. Прычым не толькі ў нашай краіне: радыяцыйныя плямы выяўлены ў Нарвегіі, Швецыі, Германіі, Польшчы, Грэцыі, на ўсходзе Францыі, нават у Італіі. Таму неабходна аб'яднаць намаганні спецыялістаў розных краін.

Уласна, менавіта гэтым Уладзімір Саўчанка і займаецца. Адна з састаўных частак праграмы "ЮНЕСКА Чарнобыль" мяркуе стварыць навукова-даследчую экалагічную сетку. Гэтая сетка, што складаецца з шэрагу размешчаных у розных краінах навуковых устаноў, лабараторый і вопытных участкаў, аб'ядная намаганні, веды і вопыт спецыялістаў-радыеэколагаў па вывучэнню радыяцыйнага становішча і выпрацоўцы рэкамендацый па ліквідацыі вынікаў аварыі. Для вызначэння напрамкаў даследчай дзейнасці мяркуецца стварыць кансультацыйны навуковы савет, а ў Мінску — пры Інстытуце радыебіялогіі Акадэміі навук — плануецца праца сакратарыята, дзе, магчыма, будзе выдавацца і спецыяльны часопіс, звязаны толькі з вырашэннем чарнобыльскіх праблем.

— Вы не ўяўляеце,— гаворыць У. Саўчанка,— як многа энергіі і намаганняў запатрабавалася, каб прыцягнуць шырокую ўвагу да чарнобыльскай бяды, данесці праўду да навуковых колаў і грамадскасці, даволі хутка распрацаваць каля 70 праектаў. На іх падставе і была створана, а затым і афіцыйна зацверджана праграма "ЮНЕСКА — Чарнобыль". У яе ўвайшоў і наш праект стварэння навуковай сеткі, у якім важную ролю адыгрывае АН Беларусі. Для ажыццяўлення праекта ўжо знойдзены многія партнёры за мяжой, мы нават планавалі правесці вясной гэтага года ў Мінску першую рабочую нараду. Але... няма грошай! Не толькі на ўвесь праект, нават на мінскую сустрэчу вучоных нам не хапае 12 тысяч долараў. Даводзіцца шукаць спонсараў.

Зрэшты, адсутнасць сродкаў на ўсю праграму не азначае бяздзейнасці. Ужо другі год па ініцыятыве і пры актыўным удзеле ЮНЕСКА беларускія дзеці адпачываюць у скаўцкіх лагерах у шэрагу краін. Выпушчаны і паступілі ў продаж за мяжой памятныя знакі і медалі, створаныя пры садзеянні вядомага французскага куцюр'е П'ера Кардэна (сродкі ад гэтай акцыі пойдуць на адзін з праектаў праграмы). На Украіне пачата стварэнне цэнтра рэабілітацыі для пацярпеўшых. У Мінску ЮНЕСКА плануе адкрыць цэнтр моўнай падрыхтоўкі спецыялістаў, якія працуюць над чарнобыльскімі праблемамі. Яшчэ адзін цэнтр (таксама ў Мінску), але ўжо спецыялізаваны, будзе арганізаваны з часам на базе Інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі.

Нягледзячы ні на якія цяжкасці, гаварылі мне ў Парыжы і французы, і нашы суайчыннікі, мы верым у поспех праграмы "ЮНЕСКА — Чарнобыль". Але, дадавалі пры гэтым, што на месцах трэба праяўляць больш актыўнасці: даваць свае заяўкі і прапаноўваць свае праекты, карыстацца любой магчымасцю для аб'ектыўнага інфармавання грамадскасці аб сітуацыі ў забруджаных зонах.

— Аднак, нягледзячы на вялікае значэнне міжнароднага супрацоўніцтва, час ужо зразумець: па-сапраўднаму мы можам сёння разлічваць толькі на саміх сябе, на свае ўласныя сілы, рэсурсы, сродкі,— як бы падсумаваў усю серыю маіх парыжскіх сустрэч Уладзімір Саўчанка.— І марудзіць нельга. Экалагічная пагроза настолькі рэальная, што гаварыць пра яе ў будучым часе ўжо не мае сэнсу.

Больш чым сумнае рэзюме, ці не праўда? Але мільёны людзей за мяжой зразумелі гэта. А ці зразумеем мы і ці пачнём нарэшце дзейнічаць, ратуючы сваю зямлю і саміх сябе, мы, хто па волі горкага лёсу апынуўся на страшны чарнобыльскі крок бліжэй за іншых да гэтай катастрофы?

**Наталля БУЛДЫК.**

*З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ*

# НЕ ДАПУСЦІЦЬ ГОЛАДУ І ХОЛАДУ

Як вядома, 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР". Следам за пастановай павінны прымацца меры па яе рэалізацыі.

Аб некаторых пытаннях дзейнасці рэспубліканскага ўрада ў сувязі з суверэнітэтам і незалежнасцю ішла размова на прэс-канферэнцыі ў Савеце Міністраў БССР для журналістаў рэспублікі, якую праводзіў намеснік прэм'ер-міністра старшыня Дзяржэканомплана БССР Сяргей ЛІНГ.

Ім, у прыватнасці, было адзначана, што для падрыхтоўкі прапаноў па забеспячэнню функцыяніравання эканомікі ва ўмовах суверэнітэту рэспублікі створана рабочая група з 30 чалавек пад кіраўніцтвам першага намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіча. У рабоце гэтай групы ўвага будзе сканцэнтравана на такіх першачарговых задачах, як ацэнка стану, прагназіраванне развіцця галін і вытворчасцей у новых умовах, прыняцце мер па забеспячэнню рэспублікі прадуктамі харчавання, таварамі народнага спажывання, матэрыяльна-тэхнічнымі і паліўна-энергетычнымі рэсурсамі, подрыхтоўка прапаноў аб пагранічнай і таможнай ахове, выпуску ўласных грошай, распрацоўка прынцыпаў адносін з саюзнымі структурамі, іншымі рэспублікамі і дзяржавамі.

Нядаўна Прэзідыум Савета Міністраў рэспублікі ўсебакова і грунтоўна абмеркаваў праект пастановы "Аб некаторых неадкладных мерах па выкананню Закона Беларускай ССР "Аб наданні статуса канстытуцыйнага Закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР" і пастановы Вярхоўнага Савета БССР "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР". У ходзе абмеркавання гэты дакумент выклікаў шэраг заўваг і прапаноў, і, вядома ж, у бліжэйшы час ён будзе дапрацаваны.

А пакуль у пастанову ўносяцца папраўкі, Сяргей Лінг прапанаваў абмеркаваць надзённыя праблемы дня: забеспячэнне насельніцтва рэспублікі прадуктамі харчавання, ход уборкі ўраджаю, нарыхтоўкі бульбы, караняплодаў і іншых сельскагаспадарчых культур, падрыхтоўкі да зімы, таму што сёння гэтыя пытанні як ніколі актуальныя і патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Якое ж становішча цяпер? Ва ўсякім разе, запэўніў ён, урадам рэспублікі будзе зроблена ўсё, каб не дапусціць голаду і холаду. Ёсць упэўненасць, што дзяржаўны заказ 1 мільён 200 тысяч тон па збожжу павінен быць выкананы. Вядома ж, не без прыняцця ўрадам дадатковых мер. А яны такія: кожны калгас, саўгас, іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і арганізацыі павінны забяспечыць выкананне дзяржзаказу па заключаных дагаворах і прыняць меры па іх выкананню да 15 верасня бягучага года. У выпадку невыканання дзяржзаказу да кіраўнікоў будуць прыменены самыя строгія меры ўздзеяння, аж да вызвалення ад займаемых пасад. Такое становішча распаўсюджваецца і на кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, якія пастаўляюць матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы і тавары народнага спажывання ў рэспубліканскі фонд стабілізацыі рынку для стымулявання продажу збожжа.

Адзначана, што не абыдземся мы і без закупак збожжа па імпарту, у прыватнасці, у Польшчы. Аднак галоўнае цяпер — сабраць і захаваць увесь ураджай да зярнятка ў сябе дома.

У сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я, кепска складваюцца справы на нарыхтоўцы бульбы. Урадам рэспублікі таксама прыняты дадатковыя меры па фарміраванню ў 1991 годзе прадуктовых і сыравінных рэсурсаў "другога хлеба". Мяркуецца стварыць у рэспубліцы дзяржаўны страхавы запас харчовай бульбы ў аб'ёме 50 тысяч тон. А для лепшага забеспячэння харчаваннем Белкаапсаюзу даручана адшукаць магчымасці і забяспечыць таварамі народнага спажывання насельніцтва рэспублікі, якое ажыццяўляе сустрэчны продаж бульбы.

Сяргей Лінг адказаў на шматлікія пытанні журналістаў.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

## МІЛАСЭРНАСЦЬ — ДЗЕЯННЕМ



У гематалагічным аддзяленні Гомельскай абласной бальніцы ратуюць дзяцей ад цяжкай хваробы — вострага лейкозу. Дзякуючы гуманітарнай дапамозе з-за мяжы, пацыенты тут забяспечаны ўсім неабходным. Вопыт савецкіх урачоў у спалучэнні з праграмай, прадастаўленай спецыялістамі Германіі, дазваляе дабівацца 90-працэнтнага вылечвання вострага лейкозу.

На жаль, магчымасці аддзялення вельмі абмежаваныя. Разлічана яно было ўсяго на 15 ложкаў. Цяпер іх удвая больш. Але і гэтая колькасць месцаў не дазваляе прымаць на лячэнне ўсіх, хто мае патрэбу.

НА ЗДЫМКУ: агляд Рамана С. праводзяць урач Міхаіл БАГАЧАНКА і медсястра Марына КАШКОВА.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.




**113**

Знача, эканамічнае рабства — у прынцып! Правядлова сказаў нейкі мудрэц: "Рабства на сьвеце не зьнікае, мяняюцца толькі яго формы". Ён, Тугоўскі, згодны з гэтым... Але каб людзі гэтае рабства ўвазводзілі ў прынцып, каб яны яго ўвазводзілі ў права, у закон, нейкі час будзе "сацыяльнае" пытаньне. Знача, няхай будуць вечна багатыя і бедныя, адны піваварi й капіталісты ледзь носяць свае адкармлёныя тушы, а на рагу вуліцы няхай стаяць убогія й галодныя. Няхай, знача, вечна будуць войны, бо адзінкі хочуць багацець, хочуць рынкаў для збыту тавараў, а дзяржавы стаяць на варце іх інтарэсаў... Міністры і ўрады таксама нічым не адрозьніваюцца ад людзей, жадаючы разбагацець. Знача, няхай будуць калекі й убогія, няхай будуць сіроты й удовы, няхай льюцца сьлёзы й кроў па ўсяму абшару зямлі. І гэтыя крывавыя прыкупы як апошняе слова навукі прэпадносе прафэсар моладзі. Гэтую атруту ўлівае ён у сэрца яе аўтарытэтам свайго слова й свайго палажэньня. Так прывуча ён думаць усіх прысутных у гэтай аўдыторыі, так як ён прымусе адказываць студэнтаў на экзамене. Так панясуць беларусы-студэнты яго думкі ў сваю лапцюжную Беларусь.

Ён глянуў на сваіх землякоў. Яны запісывалі кожнае слова прафэсара, як фанограф запісывае гукі, нісколькі не задумваючыся над іх зьместам. Яны не маглі ці не хацелі глыбей спыніцца над тымі словамі, якія патокам ліліся ў іх маладыя сялянскія мазгі атрутай. Можа быць, яны былі згодны з прафэсарам? Недарма казалі пра аднаго студэнта з Прагі, які, заехаўшы да бацькі-селяніна, ня мог апрануць кажуха.

"Сьмярдзіць", — казаў ён сярдзіта.

**114**

Гэты студэнт — праваобраз тых, якія вернуцца пасьля яго на Бацькаўшчыну. "Бедная Беларусь, — падумаў Тугоўскі, — калі яна мае такіх сыноў".

Тугоўскі наўмысьлі шапнуў сядзячаму каля яго Бураку:

— А як ты думаеш, ён праўду кажа?

Той зьдзіўлена падняў на яго вочы й сярдзіта агрызнуўся:

— Не перашкаджай!

Тугоўскі замоўк. Ён глядзеў на ненавіснага залатазубага прафэсара, і яму хацелася пусьціць з свайго мейсца на кафэдру кнігай проста ў яго зубы. Ён ня мог сядзець і хацеў пакінуць аўдыторыю ў знак пратэсту. Але не адважыўся стукаць дзьвярыма. Ён сядзеў і думаў: для каго ж гэта тэхніка? Як вучыцца ў інстытуце сыну работніка і селяніна? Ён аблягчона ўздыхнуў толькі тады, калі нарэшце зноў загаманілі і прафэсара ня стала ў пакоі.

## IV

Сумна йшоў з лекцыі ў свой інтэрнат Тугоўскі. Сьнег абстаў яго, сьнег кружыўся перад ім, як думкі, і, як думкі, бясьсільна разьбіваўся аб каменьні вуліц. Што цяпер будзе з дыплёмам? Пасьля гэтай лекцыі ён пачуў, што ня можа больш хадзіць у Політэхнічны інстытут. Яму чамусьці здавалася, што ўсё, што прападносіцца ў інстытуце, — мана і махлярства, прыкрытыя вуалей навукі. Як жа ён зможа вучыць тое, чаму ён сам ня верыць, і як ён пойдзе на экзамен да гэтага залатазубага прафэсара, якога ён ненавідзе ўсей сваей душой? Што ён будзе адказываць яму? Тое, што казаў прафэсар, — проста зазубрыўшы ад-

**115**

казы, як папугай? Не, ён гэтага ня мог-бы зрабіць. Ён ня пойдзе проціў голаса свайго ўласнага сумленьня...

Перш за ўсё трэба заставацца чэсным з самім сабой. Тады спрачацца з прафэсарам, даказаць яму, што ён памыляецца? Але... Ён яшчэ досыць слабы, можа быць пасьля такой дыскусіі прафэсар, выправодзіў бы яго з кабінету як за незадавальняючы адказ... Знача, так ці інакш, выхаду няма. Ён папаў у нейкае зачараванае кола, з якога ня выбрацца. Што ж будзе тады з дыплёмам? Наогул, што будзе тады з яго навукай, з яго ахвярамі на даўгім шляху? Ці ж ува імя таго, каб ён кінуў унівэрсытэт, працавала яго матка ў прачачнай і мыла чырвонаармейскую бялізну, ці ўва імя гэтага бацька надрываў жывот на заводзе?.. Ці ж ува імя гэтага трэба было канчаць гімназію? Кінуць дабравольна унівэрсытэт — гэта ж было-б самагубства, над якім сьмяяліся-б усе сябры! Але, з другога боку, як у ім вучыцца, калі чуеш, што ён створан для панаваньня нейкіх асоб над народам, над сялянамі і работнікамі, што ён толькі зьдзекуецца над дзяцямі гэтых сялян і работнікаў. Тугоўскі ня мог распутаць гэтага вузла думкі. Чым больш ён думаў, тым больш гэты вузёл зацягіваўся. Хто мог бы яму дапамагчы? Ды што, калі ён жорстка памыляецца, калі праў залатазубы прафэсар? У рэшце жа рэшт кожны чалавек хоча быць багатым. Нават узяць самага маленькага, нікчэмнага чалавека і запытаць, ці хоча ён быць багатым, напэўна ён зьдзівіцца й скажа: "Што за пытаньне?.. Вядома, хачу".

Кожны хоча быць багатым, але ня кожны можа. Дык чаму ж нападаць на тых, якія могуць сабе нажыць багацтва, чаму нападаць на іх за тое, што

**116**

ў іх ёсьць збольшасьці й розум, калі ў іншых гэтага няма. Недарма ён калісьці ў сваёй споведзі самагубцы параўноўваў людзей з птушкамі... Можа быць гэтыя багатыя людзі й ёсць тыя людзі, каторым прырода дала крыльлі лятаць пад небам. Дак ці павінны мы дабівацца іх за гэта?

Ён ішоў па занесеных сьнегам дарогах міма прыгожых, толькі што пабудаваных утульных вілаў. Так хацелася-б у гэту студзёную пару забрацца ў адну з такіх вілаў, разсесца каля каміна, слухаць трэск вагня й марыць, падняцца ў паэтычныя далі, пад шум буры, ламаючайся ў вакно. І што было-б, калі-б яму сказалі: "Вось вы, грамадзянін Тугоўскі, сацыяліст. Добра... Мы даём во гэтую вілу ў поўную ўласнасьць. Жывіце ў ей, колькі хочаце — перадавайце яе, каму хочаце, у спадчыну. Завадзіце пры віле сад, аб'ядайцеся яблыкамі і сьлівамі, таўсьцейце. А мы паглядзім, што стане з вашымі сацыялістычнымі поглядамі". І што сталася-б? Нейкі ўнутраны насьмешлівы голас казаў: "Зразумела, ты адмовіўся-б ад вілы. Праз пару гадоў ты сам лаяў бы сацыялістаў. Знача, усё на сьвеце [...]. Усе людзі роўныя па свайму складу. Чалавечае ёсьць заўсёды чалавечае. І ў рэшце рэшт усё зводзіцца да аднаго агульнага назоўніка: кавалка хлеба. Знача, тады прафэсар праў. Не, ня можа быць. Тугоўскі ня мог дапусьціць, адчуваў нутром, не розумам, а сэрцам, што ўсё ж трэба нешта дабавіць да яго, унесьці нейкую папраўку. Але якую, ён ня ведаў. З кім-бы пагутарыць? З сябрамі? Ён успомніў пра Вярхоўскую. Прыгожы вобраз прымусіў яго на хвіліну радасна ўсьміхнуцца. Толькі дзе спаткаць яе? У Студэнцкім доме яе не відаць, дык ён і сам рэдка туды заглядвае. Усё ж прыдзецца яе паба-

**117**

чыць, пагутарыць з ёй. Яна філязофка і шмат можа яму дапамагчы ў развязываньні таго вузла, які так непрыемна завязаўся... Ён зноў пачаў думаць пра унівэрсытэт. Хто ведае, можа быць, расквітацца з ім, кінуць, на Бацькаўшчыну падацца... А можа быць, чым жыцьцё не жартуе, можа быць, яму засьмяецца яшчэ каханьне... Калі-б магло стацца, што Вярхоўская йшла-б з ім за руку, як жонка, ён мог-бы сказаць, што недарма прыехаў у Прагу!

Пры гэтай думцы ён нават весялей зачасьціў па скрыпучаму сьнегу. Калі ён увайшоў у інтэрнат, яго сустрэлі напоўненае дымам папярос паветра, гоман, сьмех, гукі мандаліны. Стракатa касцюмаў, мовы, людскіх твараў на гэты раз яму здаліся асабліва цікавымі. Ува ўсіх кутах усюды чуліся гутаркі аб жанчынах. Але самае цікавае было тое, што на пасьцелі сядзеў Кірыла і граў на мандаліне. Побач яго сядзеў Серада, каля пасьцелі стаяла кучка слухачоў.

— Якім чынам? — зьдзівіўся Тугоўскі.

— У госьці прыйшоў, даражэнькі, частуй хутчэй. Я чакаю цябе з паўдня...

— Што ж цябе прыгнала так да мяне? Напэўна, справа. Так ты ніколі дабравольна не зайшоў-бы.

— Чаму? Захацелася цябе проста паглядзець... А потым і правядлова — справа ёсьць... Вось, грамадзяне ўкраінцы, — пачаў ён голасна, — у гэтую нядзелю беларусы ўлажываюць вечарыну... У "Чэска-Рускай Едноце"[1]. Вельмі просім вас усіх зьявіцца і падтрымаць сваей прысутнасьцей.

— А што там будзе? — запытаў Серада.

— Выступе квартэт чэскай філармоніі, будуць спевы беларускага хору, сольныя нумары, дэклямацыя беларускіх вершаў. Студэнт Тамашэвіч будзе іграць на дудзе. Бачылі калі-небудзь бела-

**118**

рускую дуду, грамадзяне?

— Што гэта за дзіва? — сьмяяліся ўкраінцы...

— Вось пабачыце... Прыхадзіце... Ну а цяпер пойдзем крыху пагутарым, — сказаў "айцец" Кірыла, устаючы й перадаючы мандаліну Серадзе. Яны выйшлі ў даўгі карыдор інтэрната й пачалі хадзіць з кута ў кут.

— Ну, шмат навін табе прывёз, — казаў Кірыла, — па-першае, ты напэўна ўжо ведаеш, што Загорскі зрабіў бліскучую кар'еру і закахаўся ў багатую чэшку. Цяпер ён зьяўляецца ў Студэнцкі дом толькі і ў возуўцы[2]...

— Я гэта чуў, — зазначыў пахмурна Тугоўскі.

— Дык вось цяпер Вярхоўская засталася без жаніха, — засьмяяўся ён. — Ну, а як у цябе справа з каханьнем? Студэнты сьмяюцца, што ты закахаўся ў Вярхоўскую, нават яна сама зазначае, што вельмі любе гутарыць з табой. Ні з кім ёй няма такой прыемнасьці гутарыць, як з табой. Хе-хе-хе!

— Ты што? — паглядзеў на яго пільна зварушаны і ўсьцешаны Тугоўскі. — Ня можа быць!

— Правядлова!.. Толькі я хачу запытаць цябе: ты сур'ёзна кахаў яе?..

— Я? Як сказаць, — засаромеўся і пачырванеў Тугоўскі...

— Кінь, браце, — сур'ёзна прамовіў, сплёвываючы на падлогу, "айцец" Кірыла, — нічога з твайго каханьня ня будзе... Яна — інтэлігэнтка. Дачка папа...

— Дачка папа? — ледзь не ўскрыкнуў

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 36.**

**119**

Тугоўскі... — Дазволь, я нічога не разумею: як жа яна, сацыялістка, пры гэтым зьяўляецца яшчэ сябрам прэзыдыума — і паступовага![3]

— Сацыялісты? Правадыры народу — брахуны, — пачаў лаяць Кірыла, — ідуць у народ, нясуць яму кніжачкі. У кніжачках — пра свабоду. Дзеля чаго? Дзеля таго, каб потым сядзець на шыі гэтага народу... "Прыхільнікі народу — дабрадзеі пакрыўджаных працоўных мас"... Толькі паслухаць іх, як яны гавораць у сваіх прадвыбарчых прамовах, як яны стараюцца атуманіць народныя мазгі — і ўсё толькі для таго, каб потым стаць дэпутатамі. Дзе ж праўда пасьля гэтага?

— "Айцец" Кірыла, ты — анархіст. Ты нічога не прызнаеш, у табе жыве нейкая брутаўская жылка...

— Хто-б я там ня быў — гэта ўсё раўно. Толькі гэта маё перакананьне... Усе гэтыя — Тамашэвіч, Вярхоўская, Загорскі — ягадкі аднаго поля — інтэлігенты. Жывуць для народу! Падумаеш, якія пракокі... Ведаем... — Пільна паглядзеў на Тугоўскага: — Калі на вечарыне ў маей кватэры Тамашэвіч гутарыў аб ластаўках культуры, якія палятуць на Беларусь, я не хацеў толькі спрачацца для сьвята. Падумай толькі: яны панясуць культуру ў народ... Ды запытаць іх, ці ведаюць яны гэты народ, ці жылі яны хоць раз яго жыцьцём, у яго брудных хатах, ці зрасьліся яны з ім, як дрэва зрастаецца карнямі з грунтам? Не, браце, тысячы разоў не. Ня гэтым Тамашэвічу і Вярхоўскай, ня гэтым інтэлігэнтам быць ластаўкамі. Грош ім цана...

— Ого-го, — засьмяяўся Тугоўскі. Ты запраўдны прарок... На другіх нападаеш, а сам?

— Не , выбачай: я не прарок. Што ў каго баліць,

**120**

той аб тым й пачынае гаварыць, — кажа прыказка. — А справа баліць. Як падумаю часам, што будзе з намі, з тэй масай, якая запраўды павінна быць ластаўкамі на Бацькаўшчыне — і ведаеш, страшна стане. Бедная, няшчасная Беларусь: якую будучыню яна мае?

— Ты вельмі згушчаеш фарбы, "айцец" Кірыла... Ня думаю, каб так было страшна!

— Ня страшна? Згушчаю фарбы? — узвысіў голас Кірыла. — Ты падумай, да чаго дайшлі нашы сябры. Паглядзі на моладзь з сялян і работнікаў: аб чым гаворка? — Аб вечарах, аб кар'еры... Яна думае стаць багатай і паказацца на Бацькаўшчыну нават няведанай, беларускай буржуазіяй... Разумееш ты гэты жах: каб гэтыя кар'ерысты былі тыпу Станкевіча, Малевіча і іншых нашых моцных стальных мужычкоў, — я-б не казаў нічога. Гэта было-б нармальна... Багаты бацька пасылае свайго сына ў Прагу вучыцца на доктара ці інжынера, зарабіць капітал, каб потым павялічыць сваю гаспадарку. Але калі аб гэтым думае наш брат безьзямельны і малазямельны, калі ён пачынае ганяцца за ўсімі "арыстакратамі", і носіць фракі, і пераймае, забываючы аб вонкавых манерах, — тады гэта сьмешна, да брыдкасьці. Хочацца сьмяяцца ім у твар. Учора прыходзе да мяне Бурак і кажа, што ён пазнаёміўся з нейкай графіняй. Я так і пакаціўся са сьмеху.

[1]Чэска-Рускае Таварыства.
[2]На таксі
[3]Маецца на ўвазе аб'яднанне беларускіх паступовых (г. зн. прагрэсіўных).

## СУМНЫ РОЗДУМ

# ДЗЕЦІ НАМ НЕ ДАРУЮЦЬ

ВАЛОЖЫНСКІ раён. Мясціны маляўнічыя. У кожнай вёскі — свой лёс, свая гісторыя. Усё было тут: войны і вызваленні, прыходзілі то палякі, то немцы. Але мала ведаюць сваю гісторыю тутэйшыя людзі. Памятаюць, што ў Дзяржынаве нарадзіўся «жалезны» Фелікс, ведаюць збольшага, хто такі Дунін-Марцінкевіч і дзе ён пахаваны. Чулі пра партызанскі рух у гэтых мясцінах. А быў жа ён тут моцны, асабліва ў Налібоцкай пушчы.

Гэтыя старонкі гісторыі больш-менш вядомыя, але людзям, якія жывуць тут, здавалася б, ёсць аб чым нагадаць.

Дунін-Марцінкевіч пахаваны ля вёскі Падневічы, у Тупальшчыне, як завецца невялічкі гай з магілкамі. Наогул, гэта месца называюць Каплічкай. Таму, мусіць, што сярод магілак стаіць і невялікая капліца.

Паўз Тупальшчыну едуць і едуць аўтобусы з экскурсіямі ў Дзяржынава. І ніхто не спыняецца ля каплічкі і помніка Дуніну-Марцінкевічу. Ніхто не прыйдзе пакланіцца чалавеку-змагару, які быў сапраўдным грамадзянінам і так хацеў лепшай долі для людзей, хацеў, каб мелі яны сваю мову.

Мы забылі. Забылі вельмі многае. Стаіць сёння ў Падневічах клуб, які не працуе амаль ніколі, ёсць сельсавет і бібліятэка. Некаторыя яшчэ памятаюць, што сельсавет — былая хата пана Цяўлоўскага і што перад ёю стаяў крыж. Нейкі час яны існавалі побач і нават не заміналі адзін другому — крыж і сельсавет. Потым раптам нехта зразумеў, як трэба жыць, і спілаваў крыж, гэты і яшчэ адзін на другім канцы вёскі. Пачалося ўсё з 1939 года, які так чакалі браты-беларусы з заходняй часткі нашага краю, з вызваленнямі і ўз'яднання, якога так прагнулі.

У Падневічах не стала крыжоў. І вёска жыла без крыжа. Без таго, у чым людзі заўсёды бачылі нейкую ахову ад нядобрага, гарантыю спакою. Нездарма былі крыжы ў тыя часы амаль паўсюль. Так жыла вёска доўга, аж да года 1990-га. Толькі тады, калі стала вальней, сабралі грошы на вёсцы і зноў паставілі крыжы. Стаяць зараз: адзін — у пачатку, другі — у канцы. Дай Бог, каб ніхто не крануў іх больш.

У 1939 годзе новая ўлада дабралася і да капліцы на Тупальшчыне. Як расказваюць старыя людзі, была яна прыгожая не толькі звонку. Там мелася шмат абразоў, хадзілі туды ў святы, там звярталіся людзі да Бога. Не адразу новыя ўладары знявечылі каплічку. Некаторы час не чапалі, але потым схапілі абразы і па-дзікаму, у нейкім асляпленні пакідалі частку іх у рэчку! Бераг Іслачы, зараз ужо зусім невялікай, але па-ранейшаму прыгожай рэчкі, якую так любіў Дунін-Марцінкевіч, стаў месцам страшэннага грэхападзення, блюзнерства. А абразы, якія не пакідалі ў раку, пацяху забралі ў свае хаты людзі. Некаторыя вылавілі ў рэчцы, і вісяць яны сёння ў хатах падневіцкіх. Вісяць і ў праваслаўных, і ў каталікоў, бо, як гавораць старыя людзі: "Бог адзін". Сапраўды, ён адзін, і адна зямля.

Можна крыўдзіць людзей, можна зрабіць іх нават маўклівымі істотамі, якія нічога не скажуць, сцерпяць, калі будуць зневажаць іх і тое, у што яны вераць. Так разграбілі капліцу на Тупальшчыне, так зачынілі не адну царкву ў навакольных вёсках. Але свет наш створаны такім чынам, што (на гора ці на радасць) у жыцці за ўсё трэба плаціць. Ці не гэта адбываецца сёння, калі мы маем Чарнобыль, амаль нямы народ?

А Тупальшчына стаіць з помнікам мала знаёмаму многім пісьменніку і з каплічкай, страшэнна пустой і дзеля чагосьці пабеленай усярдзіне. Сумна глядзець на ўсё гэта. Але думаецца: якія ж таленавітыя людзі нашы, калі ёсць такі касцёл, як гэты і як у Пральніках (вёска ў трох кіламетрах ад Падневіч). Засталіся, праўда, ад яго адны сцены. Касцёл у форме цыліндра, на даху — драніка (тонкія дошчачкі), парослая мясцінамі густым мохам. На дах вядзе вітая лесвіца, адтуль бачна вёска і яе наваколле. Прыгожа. Аднак у касцёле робіцца зноў сумна. Усё разбурана. Непрыстойныя надпісы на сценах ды галубы — усё, што ёсць тут. Тое ж і ў сутарэнні, дзе раней былі грабніцы. Ці ёсць на гэтым свеце яшчэ месца, дзе так бязлітасна ставяцца да святога?

Мне гаварылі, што ў Івянцы была не адна царква і касцёл. Касцёл аддалі пад нешта гаспадарчае. Царкву, якая перажыла Айчынную вайну, спалілі пасля яе. Зараз на яе месцы — помнік загінуўшым у час вайны...

Аднак жыццё не стаіць на месцы. Адзін з касцёлаў рэстаўрыравалі. Людзі сабралі грошы, запрасілі мастакоў. Звонку касцёл застаўся чырвоным з традыцыйнымі гатычнымі формамі. Усярэдзіне ж цяпер ён распісаны даволі незвычайна, выглядае сучасна. Калі яшчэ касцёл рэстаўрыравалі, людзі прыходзілі сюды маліцца. Удзень тут гучала радыё і працавалі мастакі, а ўвечары гучала малітва. Быў, кажуць, у свой час тут цудоўны арган. Але разабралі яго па трубах — так і загінуў.

Можна яшчэ шмат пералічваць разбураныя храмы, называць тое, што рэстаўрыруюць. Апошняе трошкі дабаўляе аптымізму. Але мы не маем права забываць, што дзеці нашы бачаць цэрквы, падобныя да кіявецкай (вёска паблізу Падневіч), дзе цяпер звычайны склад, бачаць пустыя храмы, забытыя могілкі. Я не ўпэўнена, што яны нам даруюць гэта.

**Алена СПАСЮК.**

# СЯРОД СЯБРОЎ У АМЕРЫЦЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

якім яна стаіць. Ён раней служыў месцам для праходжання каранціну для іміграктаў, якія прыбывалі ў Амерыку. Цяпер на гэтым востраве створаны музей іміграктаў.

Па традыцыі святкаванне Беларуска-рускага дня праводзіцца ў першую нядзелю жніўня ў Араў-парку, размешчаным у маляўнічай мясцовасці за 50 міль ад Нью-Йорка. Тэрыторыя парку набыта суайчыннікамі ў 1948 годзе на іх добраахвотныя ахвяраванні як месца для адпачынку і правядзення культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў. І трэба сказаць, што тут цяпер цудоўная зона адпачынку з летнімі катэджамі, клубам-рэстаранам, лодачнай станцыяй, пляжам на беразе возера і дзіцячымі гульнёвымі пляцоўкамі. Таму летам тут даволі мнагалюдна. Сюды прыязджаюць правесці свой водпуск ці уік-энд не толькі члены Араў-парку, але і суайчыннікі з іншых штатаў Амерыкі і Канады.

У 1970—1973 гадах быў ажыццёўлены так званы "культурны праект" Араў-парку. Вось тады тут і былі ўстаноўлены помнікі выдатным пісьменнікам А. Пушкіну, Т. Шаўчэнку, Янку Купалу, Уолту Уітмену.

На свята прыбылі шматлікія суайчыннікі з Нью-Йорка і іншых гарадоў Амерыкі (Бостана, Джэксана, Манро, Ратэрфорда, Трэнтана). Яго адкрыў рэдактар газеты "Русский голос" Рашыд Атамалібекаў. Прысутных вітала старшыня Камітэта гэтай газеты Вера Гетман. Сярод гасцей знаходзіліся Пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН Генадзь Бураўкін, супрацоўнікі пастаянных прадстаўніцтваў СССР і УССР пры ААН, а таксама рэдактар выдаваемай у Нью—Йорку газеты "Украинскі вісті" Міхаіл Ганусяк. З прывітаннямі ад гасцей выступілі Г. Бураўкін, У. Навіцкі, С. Кокін.

Мастацкую частку свята адкрыў ансамбль песні і танца "Глінка", у якім удзельнічаюць маладыя хлопцы і дзяўчаты, дзеці нашых суайчыннікаў. Цёпла былі сустрэты прысутнымі і паспяхова вытрымалі першы экзамен Віктар Стральчэня і Людміла Крывёнак, якія выканалі беларускія, рускія і ўкраінскія песні пад акампанемент Эдуарда Зарыцкага.

Свята працягвалася да позняга вечара: у дружалюбнай абстаноўцы вяліся гутаркі паміж гасцямі і суайчыннікамі, моладзь і ўсе жадаючыя танцавалі. Нам было прыемна адчуваць атмасферу дружбы і ўзаемаразумення, якая панавала тут паміж суайчыннікамі розных нацыянальнасцей. Мы даведаліся, што на свята ў Араў-парк заўсёды прыязджаюць украінцы, а Украінскі дзень не абыходзіцца без рускіх, беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, выхадцаў з нашай краіны.

У Араў-парку мы пазнаёміліся з актывістамі Славянска-амерыканскай асацыяцыі з горада Джэксана (штат-Нью-Джэрсі) Георгіем і Лідзіяй Логінавымі, Алёнай Несцярэнка, Пятром Мамантавым, Аляксеем і Раісай Жураўлёвымі. Ім вельмі спадабалася выступленне беларускіх артыстаў, і нашу дэлегацыю запрасілі да суайчыннікаў, якія жывуць у раёне гарадоў Джэксана і Трэнтана. Там нашы артысты выступілі 10 жніўня (гэта была субота) у культурным цэнтры Рускага таварыства ў Амерыцы (РОВА-ФАРМ). Нашым артыстам давялося даць канцэрт з двух аддзяленняў: такая вялікая была цікавасць гледачоў. Ім падабаліся лірычныя песні Людмілы Крывёнак, выканаўчае майстэрства Віктара Стральчэні і аўтарскае выкананне песень Эдуардам Зарыцкім.

Нягледзячы на тое, што нашы прадстаўнікі ўпершыню наведалі культурны цэнтр РОВА, мы знайшлі тут многа сяброў. З кіраўніцтвам Славянска-амерыканскай асацыяцыі і Рускага таварыства дамовіліся аб далейшых кантактах і абмене дэлегацыямі.

Мне асабіста было прыемна сустрэць тут знаёмых беларусаў з горада Саўт-Рывера Льва Высоцкага, братоў Уладзіміра, Сяргея і Аляксея Бычкоўскіх, Аляксандра Марціновіча. З імі я пазнаёміўся летась у час выступлення ў беларускім культурным цэнтры ў горадзе Саўт-Рывery ансамбля "Жывіца". З захапленнем гаварылі яны аб нашай артыстычнай групе і выказалі шкадаванне, што яна не змагла выступіць перад беларусамі ў іх культурным цэнтры Бэлер-Менск. У нашых артыстаў такая магчымасць мелася, але кіраўніцтва беларускіх культурных цэнтраў у Саўт-Рыверы і Бэлер-Менску адмовілася прыняць артыстаў з Бацькаўшчыны, спасылаючыся на арганізацыйныя цяжкасці. Нас вельмі засмуціла такое рашэнне, таму што ў рэпертуары артыстаў было цэлае аддзяленне беларускіх песень.

Мы прынялі запрашэнне Генадзя Бураўкіна выступіць з канцэртам перад супрацоўнікамі пастаянных прадстаўніцтваў СССР, БССР і УССР. Канцэрт адбыўся 7 жніўня ў памяшканні гэтых пастпрэдстваў. На абедзе, арганізаваным пасля канцэрта для нашай дэлегацыі, прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх трох місій, якія ў сваіх выступленнях далі высокую ацэнку выканаўчаму майстэрству беларускіх артыстаў.

У Нью-Йорку мы сустрэліся таксама з нашым земляком Янкам Запруднікам, рэдактарам газеты "Беларус". Сустрэча праходзіла ў яго рабочым кабінеце ў памяшканні радыё "Свабода", дзе ён працуе цяпер у беларускай рэдакцыі. Я. Запруднік расказаў аб рабоце беларускай рэдакцыі радыёстанцыі ў сучасны момант, яе цесных сувязях з Беларуссю і сваіх планах на будучыню.

У час сустрэч і гутарак з кіраўніцтвам Камітэта газеты "Русский голос", Славянска-амерыканскай асацыяцыі, Рускага таварыства ў Амерыцы і Рускага брацкага таварыства мы падрабязна расказалі аб праблемах, звязаных з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы на тэрыторыі Беларусі. Кіраўнікі гэтых арганізацый выказалі гатоўнасць аказаць добраахвотную дапамогу пацярпеўшаму насельніцтву рэспублікі. Так, прэзідэнт Рускага брацкага таварыства Г. Логінаў прапанаваў перадаць у Беларусь інвалідныя каляскі. У іншых арганізацыях вядзецца збор грашовых сродкаў у фонд Чарнобыля.

Вольнага часу ў нас было мала, але і яго мы скарыстоўвалі для знаёмства са славутасцямі гарадоў Нью-Йорка, Ратэрфорда, Джэксана.

Непрыкметна праляцелі два тыдні нашага знаходжання сярод суайчыннікаў у ЗША. Сардэчна развіталіся мы з нашымі даўнімі і новымі сябрамі, узаемна выказваючы ўпэўненасць у тым, што нашы сувязі будуць расшырацца, а сустрэчы праходзіць часцей як у Амерыцы, так і ў нашай роднай Беларусі.

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**намеснік старшыні Прэзідыума Беларускага таварыства "Радзіма".**



**У гасцях у нашых суайчыннікаў Клімовічаў у ЗША.**

# ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС...

Тут пераважала світа прамога крою, каравай быў менш пашыраны. Састаўным элементам вясельнага абраду ў гэтай зоне была рытуальная лазня нявесты (а іншы раз і жаніха). У некаторыя моманты вяселля, менавіта ў час дзявочага вечара (зборнай суботы), выконваліся галашэнні — сумныя, драматычнага зместу песні. У некаторых мясцовасцях Падзвіння і Верхняга Падняпроўя перад пачаткам вясельнай бяседы, адорваннем жаніха, нявесты выконвалі спецыяльную абрадавую песню, якая звалася "першай вясельнай песняй", "зачынальнай", "стаўбавой". Яе выконвалі каля стаўба, размешчанага побач з печчу. У гэтай зоне трывала захоўваліся звычаі і абрады ранейшага (вясновага) года — "валачобныя", праўда, некалькі змененыя пад уплывам хрысціянскай царквы, хрысціянскай рэлігіі. У гэтай зоне таксама адбыліся некаторыя змены ў гаворцы мясцовага насельніцтва. Зычны гук "д" тут сталі вымаўляць мякчэй ("дзэканне"), а галосны гук "о" не пад націскам пачалі вымаўляць як — "а", г. зн., акрамя "дзэкання", тут з'явілася таксама і "аканне". Насельніцтва Падзвіння і Верхняга Падняпроўя адрознівалася ад насельніцтва Папрыпяцця і некаторай своеасаблівасцю фізічнага аблічча. Яно мела больш высокі рост, больш шырокі твар, больш светлы колер скуры. Падзвінне і Верхняе Падняпроўе і яго жыхары ў параўнанні з Папрыпяццем мелі і асобную назву. Гэтыя землі сталі звацца Белай Руссю, а яго жыхары адпаведна беларусамі (беларусец, беларуска). Назва Белая Русь для абазначэння зямель Падзвіння і Верхняга Падняпроўя стала ўжывацца ў час палітычнай раздробленасці, не пазней XIII стагоддзя. У XIV стагоддзі гэтая назва, мяркуючы па пісьмовых крыніцах і даных усходнеславянскага фальклору, ужо трывала замацавалася за гэтай часткай нашага краю. Першай чвэрцю XIV стагоддзя (1318) датуецца назва Белай Руссю Віцебшчыны. Прыкладна ў той жа час (1325) Белай Руссю названа заходняя частка падзвінска-дняпроўскага рэгіёна, размешчаная каля этнічнай Літвы. Самай вядомай звесткай пра Белую Русь у нашым краі з'яўляецца тая, у якой Белай Руссю называецца Полаччына. Яна змешчана ў "Хроніцы Польшчы". У гэтай пісьмовай крыніцы Полацк названы крэпасцю Белай Русі. Гэтая звестка датуецца 1382 годам. Найменне Белая Русь сустракаецца ў валачобных песнях, пашыраных пераважна ў падзвінска-дняпроўскім рэгіёне. У адной з такіх песень, запісанай на Віцебшчыне, гаворыцца:

**"Святы Аляксей сохі чэшыць,**
**Святы Юрья — божы пасол.**
**А ўзяў ён ключы залатыя,**
**Адамкнуў зямлю сырусенькую,**
**Пусціў расу цяплюсенькую**
**На Белую Русь і на ўвесь свет".**

Культурныя і моўныя рысы, уласцівыя насельніцтву Падзвіння і Верхняга Падняпроўя, былі характэрны і для суседніх з імі земляў як на поўдні, так і на поўначы. На поўдні гэты культурны рэгіён уключаў раёны, у якіх размяшчаліся гарады Заслаўль, Менск, Барысаў, Друцк, Мсціслаўль. Паўночнымі часткамі гэтага культурнага рэгіёна былі Пскоўшчына, Цвярскі край. Яго паўночныя межы праходзілі па правым беразе Волгі. Такім чынам, тэрыторыя, якую называлі Белай Руссю, была вельмі вялікай. Па даных В. Тацішчава, яна ахоплівала землі ад вярхоўяў Заходняй Дзвіны і вярхоўяў Волгі да вярхоўяў Нёмана, уключаючы ў свой арэал, у прыватнасці Цвярскі, Смаленскі, Друцкі, Мсціслаўскі край. Паколькі некаторыя землі гэтага вялікага рэгіёна, у прыватнасці Маскоўскі край, па даных В. Тацішчава, названы Белай Руссю ўжо ў другой палове XII стагоддзя, можна меркаваць, што з гэтага часу і бярэ свой пачатак старажытная Белая Русь. Для навукі яшчэ застаецца загадкай, чаму гэтая частка Русі (ад Нёмана да Волгі) названа Белай. Магчыма, слова Белая сімвалізавала яе сярэдняе, цэнтральнае месцазнаходжанне ў адрозненне ад Вялікай і Малой (або Чырвонай) Русі, якія знаходзіліся адпаведна на поўначы і на поўдні ад Белай Русі. Цікава адзначыць, што назва гэтай вялікай часткі Русі — Белая Русь, як сведчаць старажытныя летапісы, змест якіх запісаў В. Тацішчаў, замяніла існаваўшыя тут раней папярэднія назвы Крэў (або Вярхоўе, дзе раней жылі крывічы), Мурама, Мера. Ад назвы Белая Русь паходзіць назва яе жыхароў — беларусцы. Таму можна сцвярджаць, што найменне жыхароў гэтай часткі Русі — беларусцы замяніла назвы ранейшых мясцовых супольнасцей — крывічоў, вяцічаў і часткова суседніх радзімічаў. У час палітычнай раздробленасці (XII—XIII стагоддзі) беларусцы жылі ў некалькіх асобных самастойных дзяржавах — Полацкім, Віцебскім, Менскім, Друцкім, Смаленскім, Пскоўскім, Цвярскім, Разанскім і інш. княствах адпаведна дзяліліся на больш дробныя тэрытарыяльна-палітычныя або проста тэрытарыяльныя групы са сваімі назвамі — палачане, віцябчане, мяняне, driучане, смальняне, пскавічы і інш. Адным з самых буйных эканамічных, палітычных і культурных цэнтраў Белай Русі быў Полацк і яго акруга — Полаччына. І, мабыць, зусім не выпадкова, што на заходнееўрапейскіх картах Полаччына абазначана Белай Руссю некалькі разоў.

Падсумоўваючы разгляд пытання пра пачатак Русі ў нашым краі, можна зрабіць выснову, што ён стаў і адпаведна пачаў называцца ёю толькі з сярэдзіны XII стагоддзя. З самага пачатку Русі ў нашым краі яна не была аднолькавай на яго тэрыторыі, а мела рэгіянальныя асаблівасці ў культуры, мове і назве яго насельніцтва. Па гэтых асаблівасцях наш край у той час падзяляўся на дзве часткі. Паўднёвая яго частка адносілася да культурнай дыялектна-этнаграфічнай зоны, якая называлася Палессем (а жыхары адпаведна палешукамі), а паўночная — да другой культурнай дыялектна-этнаграфічнай зоны, якая звалася Белай Руссю (а яе жыхары — беларусцамі). Старажытная Белая Русь, такім чынам, узнікла к сярэдзіне XII стагоддзя і была шырокай тэрыторыяй, якая з'яўлялася цэнтральнай часткай Русі.

## ЯК УЗНІКЛА БЕЛАРУСЬ

Пасля таго, як адна частка нашага краю стала Палессем, а другая — старажытнай Белай Руссю, паступова змяніліся ўмовы развіцця яго насельніцтва, прытым не толькі гістарычныя, але і эканамічныя, і палітычныя. Гэтыя ўмовы пачалі змяняцца ў XIII—XIV стагоддзях, а ў XV—XVI працэс гэтых змен працягваўся і закончыўся прыкладна к сярэдзіне XVI стагоддзя ўзнікненнем нашай Бацькаўшчыны — новай этнічнай (культурнай) тэрыторыі — новай Белай Русі (Беларусі), новага ўсходнеславянскага этнасу, да якога мы адносімся, — беларускага.

Найперш змяніліся гістарычныя ўмовы развіцця насельніцтва нашага роднага краю. У гэты час, у прыватнасці ў XIII—XIV стагоддзях, на захадзе і на ўсходзе ад нашага краю з'явіліся новыя знешнія ворагі, прытым вельмі моцныя. На захадзе навісла крыжацкая навала, а на ўсходзе — татарская. Нападам крыжакоў асабліва часта падвяргалася паўночна-заходняя частка нашага краю, у прыватнасці Полаччына, а нападам татараў — яго паўднёва-ўсходняя частка, менавіта Палессе. Спусташальныя набегі новых знешніх ворагаў на Полаччыну і Палессе перашкаджалі развіццю іх гарадоў. Найбольш спрыяльныя ўмовы для эканамічнага, палітычнага і культурнага прагрэсу ў нашым краі ў гэты час склаліся ў яго сярэдняй частцы — Панямонні, Міншчыне, Падняпроўі, больш аддаленых як ад крыжакоў, так і ад татараў. Таму менавіта тут больш хутка раслі як тыя гарады, што ўзніклі раней, так і новыя, што з'явіліся ў сярэдняй частцы нашага краю ў гэты час.

У паўночным Панямонні ў XIII—XIV стагоддзях узвышаецца Наваградак. Гараджане тут займаліся кавальскім, ювелірным, кастарэзным, ганчарным рамёствамі. У горадзе былі пабудаваны вялікія дамы, частка — са шклянымі вокнамі. 8 асноўных вуліц выходзілі на галоўную плошчу. У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Наваградку існавала 10 праваслаўных цэркваў і адзін касцёл. У гэтым горадзе ў XIII—XVI стагоддзях быў пабудаваны моцны каменны замак — крэпасць з 7 вежамі. У першай чвэрці XVI стагоддзя (1511) Наваградак атрымаў магдэбургскае права (самакіраванне). Горад стаў таксама буйным палітычным цэнтрам. У XIII—XIV стагоддзях ён з'яўляўся сталіцай Наваградскага княства, або, як тады называлі ў летапісах, Вялікага княства Наваградскага, а яго князёў — вялікімі князямі наваградскімі. У Наваградку складаліся летапісы. Ад Наваградка ішлі дарогі на Гародню, Менск.

З XII—XIII стагоддзяў адбываецца таксама эканамічны рост Гародні. Тут пашыраецца пасад, будуецца Барысаглебскі манастыр, некалькі праваслаўных цэркваў, касцёл, ратуша, новая гандлёвая плошча. У першай палове XVI стагоддзя ў Гародні з'явіўся водаправод. У XIII—XVI стагоддзях крэпасць гэтага горада была перабудавана ў магутны каменны замак з 5 вежамі. У XVI стагоддзі ў Гародні было звыш 700 дамоў, налічвалася каля 4 тысяч жыхароў. У канцы XVI стагоддзя ў Гародні была пабудавана друкарня, у якой друкавалі кніжкі на беларускай мове. Ад Гародні ў паўднёвым напрамку ішлі дарогі на Ваўкавыск, Бярэсце, ва ўсходнім — на Наваградак, Менск і інш.

З XII—XIII стагоддзяў хутка развіваецца і горад Менск. Яго жыхары займаюцца кавальскім, ганчарным, дрэваапрацоўчым, гарбарным, кастарэзным, ювелірным рамёствамі. У познім сярэднявеччы (XV—XVI стагоддзі) у Менску налічвалася некалькі дзесяткаў рамесных спецыяльнасцей. У сярэдзіне XVI стагоддзя рамеснікі гэтага горада пачалі аб'ядноўвацца ў цэхі. У канцы XV стагоддзя Менск атрымаў магдэбургскае права. Тут было пабудавана многа вуліц, некалькі храмаў. Фарміраванне ў познім сярэднявеччы такіх буйных рамесных, палітычных і культурных цэнтраў, як Наваградак, Гародня і Менск, сведчыла аб хуткім развіцці сярэдняй (цэнтральнай) часткі нашага краю. Яшчэ больш важным доказам імклівага эканамічнага росту гэтага рэгіёна з'яўляецца ўзнікненне ў ім значнаай колькасці новых гарадоў.

Самым буйным сярод узнікшых у XIII—XIV стагоддзях гарадоў стаў Магілёў. Ён быў заснаваны ў XIII стагоддзі ў сярэдняй частцы сучаснага Беларускага Падняпроўя на беразе Дняпра на ўзвышаным месцы, якое называлі Магіла. Ужо ў XIII стагоддзі быў пабудаваны замак, вакол якога ў XIV—XVI стагоддзях сфарміраваўся вялікі горад. Ён хутка рос у XV—XVI стагоддзях, а таксама ў першай палове XVII. У XV—XVI стагоддзях Магілёў стаў буйным рамесным, гандлёвым і культурным цэнтрам. У канцы XVI стагоддзя ў Магілёве ўжо існавала 12 цэхаў. Купцы гэтага горада ў XV—XVI стагоддзях стварылі купецкае брацтва. У 1561 годзе Магілёў атрымаў няпоўнае, а ў 1577 годзе — поўнае магдэбургскае права. У апошняй чвэрці XVI стагоддзя ў ім налічвалася звыш 1 260 дамоў, было шмат вуліц, што размяшчаліся радыяльна адносна цэнтра горада. Магілёў стварыў больш дасканалую абарону ў параўнанні з гарадамі Папрыпяцця і Падзвіння. У ім было пабудавана тры лініі абароны, па якіх размяшчаліся равы і валы. На валах былі ўзведзены сцены з вежамі і брамамі (усяго іх было 14). У горадзе хутка развівалася культура. Цэрквы і магістрат мелі архівы. Магілёў стаў адным з цэнтраў беларускага летапісання. У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў Магілёў ператварыўся ў самы буйны горад не толькі Падняпроўя, але і ўсёй сярэдняй (цэнтральнай) часткі нашага краю і нават усяго краю наогул. Ён стаў горадам, які эканамічна звязваў падзвінскія і папрыпяцкія землі. Праз Магілёў праходзілі гандлёвыя шляхі з поўначы на поўдзень і з усходу на захад... У паўночным напрамку ад яго ішлі дарогі на Оршу, Віцебск, у паўднёвым — на Ма[illegible], ва ўсходнім — на Мсціслаўль, Крычаў, у заходнім — на Барысаў, Менск. Акрамя Магілёва, у цэнтральным рэгіёне нашага краю ўзніклі таксама гарады Рэчыца, Нясвіж, Услонім, Ліда. Дзякуючы гэтым і іншым гарадам на тэрыторыі ад Прыпяці да Заходняй Дзвіны і ад Нёмана да Дняпра з Сожам, сфарміравалася новая сістэма тэрытарыяльных эканамічных сувязей. Галоўную ролю ў фарміраванні яе адыграў цэнтральны рэгіён, які эканамічна развіваўся больш хутка, больш інтэнсіўна, чым папрыпяцкі і падзвінскі. У Папрыпяцці і Падзвінні не з'явіліся такія новыя буйныя гарады, як у сярэдняй частцы нашага краю. Менавіта цэнтральны рэгіён злучыў папрыпяцкія і падзвінскія землі тэрытарыяльнымі эканамічнымі сувязямі.

Пачынаючы з XIII стагоддзя, змяняюцца таксама палітычныя ўмовы развіцця нашага роднага краю. З гэтага часу на яго тэрыторыі і суседніх балцкіх землях узнікае і пашыраецца новая вялікая дзяржава, якая атрымала назву Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Яна ўтвараецца спачатку як дынастычная канфедэрацыя ўсходнеславянскіх (рускіх) і балцкіх княстваў. Галоўнай прычынай утварэння гэтай новай вялікай дзяржавы было не толькі ўзмацненне тэрытарыяльных эканамічных сувязей паміж яе землямі, гарадамі, але яшчэ ў большай ступені новыя знешнепалітычныя ўмовы жыцця насельніцтва, неабходнасць аб'яднання сумесных сіл супраць крыжацкай навалы, а часткова таксама і супраць татараў. Цэнтрам гэтай новай дзяржавы, яе ядром стала сярэдняя частка нашага краю, у прыватнасці Панямонне, а таксама суседняя Літва. У новую дзяржаву аб'ядналіся перш за ўсё ўсходнеславянскае (рускае) Вялікае княства Наваградскае; Літоўскае і Жамойцкае княствы; затым усходнеславянскае (рускае) Полацкае княства і іншыя ўсходнеславянскія княствы, у прыватнасці Віцебскае, Мсціслаўскае, Менскае, Слуцкае, Пінскае. Сярэдні рэгіён быў цэнтрам гэтай дзяржавы не толькі ў перыяд яе ўтварэння (у XIII—XIV стагоддзях), але і пазней (XV—XVI) і ў наступныя (XVII—XVIII) стагоддзі. Гэтая дзяржава адыграла вялікую ролю ў фарміраванні нашай айчыны — новай Белай Русі, яе народа — беларусаў. Яна звязвала папрыпяцкія, панёманскія, падзвінскія і падняпроўскія землі моцнымі палітычнымі сувязямі. З дынастычнай канфедэрацыі, якой яна была ў XIII—XIV стагоддзях, Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае ў XV—XVI стагоддзях ператварылася ў цэнтралізаваную дзяржаву. Большасць княстваў, з якіх яно складалася, было скасавана. Замест іх тэрыторыя дзяржавы была падзелена на ваяводствы і паветы. І хоць гэтую дзяржаву ўзначальвалі вялікія князі балцкага (літоўскага і жамойцкага) або змешанага балцка-славянскага (балцка-ўсходнеславянскага, ці літоўска-беларускага) паходжання, яна была пераважна славянскай дзяржавай. Большасць яе насельніцтва было ўсходнеславянскім (рускім), большасць феадалаў — таксама па этнічнай (культурнай) прыналежнасці з'яўляліся ўсходнімі славянамі (рускімі). У ёй панавала ўсходнеславянскае (рускае) права, усходнеславянская (руская) мова. Але гэтая дзяржава была часткова і балцкай: частка яе насельніцтва, у тым ліку і феадалаў, па этнічнай прыналежнасці адносілася да балтаў (з'яўлялася літоўцамі, жэмайтамі). У XV—XVI стагоддзях этнічны склад насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага некалькі змяніўся. Напярэдадні Люблінскай уніі (1569) яго насельніцтва падзялялася на дзве ўсходнеславянскія супольнасці — беларускую і ўкраінскую — і дзве балцкія — літоўскую і жэмайцкую. Пасля злучэння яго з Польскім каралеўствам украінскае насельніцтва было ўключана ў склад Польскага каралеўства (1569), а Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае змяніла сваю назву, пачало называцца Вялікім княствам Літоўскім, але з гэтага часу яно стала пераважна беларускай дзяржавай: большасць яго насельніцтва, у тым ліку і большасць феадалаў, з'яўлялася беларусамі па этнічнай (культурнай) прыналежнасці, дзяржаўнай мовай была беларуская.

## ЯК УТВАРЫЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Як жа ўтварылася беларуская мова — адна з самых выдатных прыкмет беларускага этнасу? У гутарковай мове насельніцтва папрыпяцкіх, панёманскіх, падзвінскіх і падняпроўскіх земляў узніклі агульныя рысы, якія ў сукупнасці і камбінацыі з іншымі элементамі гаворкі сталі адрозніваць насельніцтва нашага краю ад насельніцтва суседніх усходнеславянскіх арэалаў, размешчаных на поўдні і на паўднёвым усходзе, на поўначы і на ўсходзе. Рашаючую ролю ў фарміраванні гэтых агульных рыс мовы адыграла насельніцтва сярэдняй (цэнтральнай) часткі нашага краю — панёманскіх і падняпроўскіх земляў. Яны сталі цэнтрам змешвання, злучэння некаторых рыс гутарковай мовы папрыпяцкага насельніцтва, з аднаго боку, а з другога — падзвінскага. Праз цэнтральны рэгіён гэтыя рысы пашыраліся далей у паўднёвыя і паўночныя часткі нашага краю. У XV—XVI стагоддзях з поўдня на поўнач шырока распаўсюджваецца цвёрды "р". Ён поўнасцю замяніў мяккі "р" у цэнтральным рэгіёне, а затым цвёрды "р" стаў пераважаць над мяккім "р" і ў паўднёвай частцы (полацка-віцебскай) падзвінскага рэгіёна. Паўночная мяжа перавагі цвёрдага "р" дасягнула Себежа і Віцебска.

**Міхась ПІЛІПЕНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 35, 36.**

# СУВЕРЭНІТЭТ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

не толькі для пісьменнікаў і акцёраў, але і для любога дзеяча культуры ўвогуле. Тут вельмі цікавая і ў тэарэтычным, і ў практычным аспектах праблема (як, напрыклад, уплывае мысленне на роднай мове на працэс стварэння жывапіснага палатна), але і ёю справа не абмяжоўваецца. Паколькі мова, як ужо было сказана, ёсць матэрыялізаванае мысленне, у адносінах да якога яна сама выступае як своеасаблівая ўсё ж такі форма, то ў якасці зместу перад намі ўзнікае само мысленне, думка як унутраная, інтымная сутнасць культуры. Менавіта ў думцы, у мысленні народ выказвае і адлюстроўвае сваю духоўнасць, сваё светаразуменне і светапогляд, менавіта праз мысленне выяўляецца тое, што мы звычайна называем самасвядомасцю народа, нацыянальнай самасвядомасцю (нацыя ў перакладзе з лацінскай якраз і азначае народ). У сваёй чыстай, так бы мовіць, дыстыляванай форме самасвядомасць у культуры праяўляецца ў яе філасофіі ў самым шырокім сэнсе гэтага слова, праяўляецца непасрэдна, у той час як усе астатнія ўзроўні і галіны культуры насычаюцца самасвядомасцю апасродкавана аж да культуры ўласна матэрыяльнай. Філасофія з'яўляецца душою нацыянальнай культуры, і таму сама не можа не быць нацыянальнай. Толькі пры наяўнасці ўласнай філасофіі як вышэйнай формы самасвядомасці народа культура яго можа лічыцца самастойнай і развітой. Пры гэтым яна, гэтая філасофія, павінна сама вырастаць з глыбінь матэрыяльнай і мастацкай культуры свайго народа, выказваючы і цэментуючы сабою ўсе яе ўзроўні і галіны. У такім толькі выпадку могуць быць асэнсаваны гістарычнае мінулае культуры, як нейкай сістэмнай цэласнасці, яе сучасны стан і перспектывы далейшага яе развіцця.

Калі параўнаць такія ідэальныя ўмовы існавання і развіцця нацыянальнай культуры з рэальным станам нашай беларускай культуры, то атрымліваецца вельмі змрочная карціна. Не кажучы ўжо пра тое, што культура наша амаль зусім страціла сваю знешнюю нацыянальную спецыфіку і нават мову, у ёй вельмі слабая ўнутраная насычанасць азначанай нацыянальнай самасвядомасцю. Мы вывучаем яе ўжо хутчэй як прадмет палеанталогіі і археалогіі, а не як жывы сацыяльны арганізм, даследуем як тэкст, які амаль што ўжо не разумеем. Што ж датычыць яе душы, г. зн. філасофіі, то замест яе нам была навязана зусім іншая, чужая нам і па сутнасці, і па паходжанню марксісцка-ленінская філасофія, якая, прэтэндуючы на ролю філасофіі інтэрнацыянальнай, адыгрывала фактычна ролю класава-партыйнай касмапалітычнай ідэалогіі, якая калечыла цела і душу беларускай культуры, здзяйсняючы дыктатуру ідэалогіі, своеасаблівы ідэйны таталітарызм.

Беларуская культура, калі яна хоча быць паўнапраўнай развітой нацыянальнай культурай, павінна пазбавіцца ад такога ідэалагічнага дыктату і выпрацаваць сваю ўласную самасвядомасць, сваю ўласную філасофію, свае ідэалы і светапогляд. Гэта зусім не значыць, што культура наша стане ад таго чымсьці супрацьлеглым культуры агульначалавечай. Наадварот, яна толькі і зможа ўвайсці ў агульначалавечую культуру — гэтае цэласнае мноства іншых нацыянальных культур — як роўная сярод роўных, са сваім уласным тварам і сваім светапоглядам. Яна ўвойдзе ў склад агульначалавечай культуры як частка ў сваё цэлае, захаваўшы ў той жа час тое, што можна было б тут назваць суверэнітэтам культуры. І тут мы выходзім на другі бок нашай праблемы — на пытанне аб суверэнітэце ўжо ў юрыдычным сэнсе гэтага слова.

Уведзенае ва ўжытак яшчэ ў XVI стагоддзі Жанам Бадэнам слова "суверэнітэт" азначае верхавенства правоў і незалежнасць дзяржавы адносна іншых дзяржаў. Яно таксама разумеецца не як форма супрацьпастаўлення гэтым іншым дзяржавам, але як форма раўнапраўных, незалежных узаемаадносін паміж імі. У пэўным сэнсе дзяржаўны суверэнітэт падобны на другое, таксама вельмі важнае юрыдычнае паняцце — дзеяздольнасці асобы. Падабенства цікавае і глыбокае: як асоба можа быць дзеяздольнай толькі пры ўмове нармальнай, развітой свядомасці, так і для паўнацэннага суверэнітэту народа патрэбна развітая народная, нацыянальная самасвядомасць. Нацыянальная самасвядомасць у гэтым сэнсе тое самае, што і свядомасць асобы. Таму без развітой нацыянальнай самасвядомасці суверэнітэт можа мець або толькі таталітарны, дыктатарскі характар і навязвацца, як правіла, аднекуль збоку, або ў адносна лепшым выпадку можа застацца чыста фармальным, папяровым суверэнітэтам. Ролю ж нацыянальнай самасвядомасці адыгрывае, як ужо было сказана вышэй, культура. Таму суверэнітэт і культура аказваюцца цесна звязанымі паміж сабою. Суверэнітэт можна разглядаць як канчатковую рэалізацыю, замацаванне незалежнасці і самастойнасці нацыянальнай самасвядомасці, яе юрыдычнае афармленне нацыянальнай культуры, як прававая аснова і абарона, якая можа прымяняць і дзяржаўны прымус.

У нашай рэспубліцы абвешчана Дэкларацыя аб суверэнітэце. Але ў многім яна ўсё яшчэ застаецца толькі дэкларацыяй. Прапанова [illegible]кі Вярхоўнага Савета рэспублікі надаць ёй канстытуцыйны статус была, напрыклад, адхілена, як адхілена была і прапанова зноў паставіць пытанне аб дзяржаўнасці беларускай мовы. (Артыкул пісаўся аўтарам да прыняцця Закона ад 25 жніўня, паводле якога Беларусь стала канстытуцыйна суверэннай. — **Рэд.**). Усё гэта, як і многае іншае, яскрава сведчыць аб тым, што суверэнітэт наш пакуль што з'яўляецца папяровым і не напоўнены канкрэтным унутраным зместам. Трэба прызнаць, што і ўзнік ён не столькі пад унутраным напорам нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай культуры, колькі як пэўная ўступка Цэнтра рэспублікам дзеля змякчэння агульнай сацыяльнай напружанасці ў былым Саюзе. Паміж сучасным узроўнем нашай нацыянальнай самасвядомасці і нашым дзяржаўным суверэнітэтам існуе яшчэ вельмі вялікі разрыў, з-за чаго і культура ўспрымаецца як неразвітая, і суверэнітэт як фармальны. Калі разглядаць культуру як змест, а суверэнітэт як яго юрыдычную форму, то нам трэба яшчэ дабівацца адзінства зместу і формы. Толькі тады беларускі народ адчуе сябе паўнапраўным і незалежным, у поўным сэнсе гэтага слова суверэнным народам з уласнай культурай і ўласнай жа дзяржаўнасцю.

Гэтая вялікая задача ўскладае пачэсны, хоць і нялёгкі абавязак не толькі на нашых заканадаўцаў у Вярхоўным Савеце, але і на працаўнікоў культуры, прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, абавязак усяляк садзейнічаць развіццю беларускай нацыянальнай культуры, каб яна запоўніла сабою пустыя пакуль што юрыдычныя формы і дала ім сілу і ўнутраны сэнс. І развіццю перш за ўсё духоўнай яе сярэдзіны, як філасофіі, светапогляду, светаадчування. Самы страшны заняпад у нас існуе менавіта ў гэтым аспекце. Калі нават мовы сваёй некаторыя з нас зракліся, дык аб самастойнасці філасофскага мыслення і светапогляду ўжо і гаварыць не прыходзіцца: тут без Масквы не маглі мы зрабіць аніводнага кроку. Духоўнасць нацыянальных культур, іх філасофія, іх светапогляд былі бязлітасна выцеснены агульнасаюзнай партыйнай ідэалогіяй, а ўся ідэалогія сканцэнтравана ў Маскве. Ідэалогія гэта, вядома ж, была рускамоўнай і з'яўлялася яшчэ і вельмі эфектыўным сродкам русіфікацыі іншых культур. Справа даходзіла да таго, што было забаронена, напрыклад, выдаваць у рэспубліках падручнікі для ВНУ па філасофіі і грамадазнаўчых навуках, і распрацоўвалася нават пастанова аб закрыцці філасофскіх факультэтаў пры рэспубліканскіх універсітэтах, з тым каб рэспублікі маглі забяспечваць патрэбу ў філасофскіх кадрах толькі за кошт выпускнікоў Маскоўскага і Ленінградскага універсітэтаў. Наогул, уся так званая савецкая духоўная культура мела выразна бачны іерархічны характар зусім па ўзору афіцыйнай іерархічнасці ўсяе каманднa-адміністрацыйнай сістэмы.

Саюзныя акадэмічныя інстытуты, напрыклад, аўтаматычна лічыліся больш важнымі, чым адпаведныя інстытуты рэспубліканскіх акадэмій, акадэмік саюзнага рангу аўтаматычна станавіўся разумнейшым за члена акадэміі рэспубліканскай, і зарплата яго адпаведна была куды большай. Тое ж рабілася і адносна дзеячаў мастацкай культуры з сістэмай іх ганаровых чыноў і званняў. Без аніякага сораму ўжываўся тэрмін "провинция" і "провинциализм" у адносінах да іншых нацыянальных культур, міжвольна ці вольна сцвярджаючы тым, што рэгіёны гэтых культур сапраўды былі некалі заваяваны (слова ж "провинция" паходзіць ад лацінскага vinco, vincere — заваёўваць, перамагаць). Нават кнігі і дысертацыі па мясцовых нацыянальных культурах зацвярджаліся толькі Масквой. Усё гэта ў той жа ступені рабілася і ў дачыненні да беларускай культуры, яшчэ можа і ў больш цынічнай форме, бо калі, напрыклад, з самабытнасцю грузінскай ці эстонскай культур прыходзілася ўсё ж такі лічыцца хаця б у сілу самабытнасці і арыгінальнасці іх моваў, то беларуская мова лічылася проста дыялектам мовы расійскай, а аб самабытнасці самой культуры ніхто ўжо і гаварыць не хацеў. Вось чаму, каб вярнуць беларускай культуры яе нацыянальную самасвядомасць, годную дзяржаўнага суверэнітэту, трэба ўсяляк развіваць яе духоўнасць, яе веру ў свае ўласныя ідэалы, яе філасофію і яе светапогляд.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Беларускай культуры, як і іншым нацыянальным культурам, было адмоўлена не толькі ва ўласнай духоўнасці і светапоглядзе. Пазбавілі яе самастойнасці і арыгінальнасці і ў матэрыяльным яе пласце, у тым, што завецца звычайна матэрыяльнай культурай. Лічыцца агульнапрынятым у культуралогіі, што ўсякая культура ўключае ў сябе тры пласты ці ўзроўні: духоўны, мастацкі і матэрыяльны. І ўсё гэта складае культуру з уласнай сваёй самабытнасцю і арыгінальнасцю. Матэрыяльнае і духоўнае ў культуры звязаны ў адзінае цэлае, аб чым пісалі яшчэ Макс Вебер і Сяргей Булгакаў, якія нават эканоміку і рэлігію ўмелі бачыць ва ўзаемнай сувязі. Татальна цэнтралізаваная саюзная эканоміка з яе абязлічаным планаваннем і прыярытэтам цяжкай прамысловасці ва ўгоду ваенна-прамысловаму комплексу знявечыла і тут нацыянальна-самабытнае аблічча беларускай матэрыяльнай культуры з яе арыгінальнымі гарадскімі рамёствамі і своеасаблівай сельскаю гаспадаркай. Усё было зраўняна і зруйнавана бязлітасным каткам сацыялістычнага планавання, індустрыялізацыі і калектывізацыі. Асабліва ж злавесную ролю адыгралі тут ваенная прамысловасць і армія. Нацыянальныя рысы ў нейкай меры дазволена было мець толькі вузкай праслойцы мастацкага пласта культуры, які паступова і замяніў сабою ўсю культуру, пераняўшы і яе назву (слова "культура" на практыцы і азначае ў нас цяпер толькі культуру мастацкую). Не дзіва, што так абкарнаная нацыянальная культура ператварылася ў тое, што чыноўнікі з Цэнтра, а за імі і нашы мясцовыя грэбліва завуць сацкультбытам і на што выдзяляюць з бюджэту не болей чым два-тры працэнты. І то з вялікаю неахвотай.

Так мы зноў сутыкаемся з паняццем суверэнітэту, і суверэнітэту на гэты раз ужо ў галіне матэрыяльнай вытворчасці. Ён рэалізуецца тут як магчымасць гаспадарыць на сваёй уласнай зямлі самому беларускаму народу, а не чыноўніку з рускамоўнага Цэнтра. Гэта дасць моцную аснову, ці, як казалі марксісты, базу для развіцця мастацкай і духоўнай культуры. І калі духоўная культура, самасвядомасць народа, як мы ўжо бачылі, ствараюць магчымасці для рэалізацыі дзяржаўнага суверэнітэту, то ў галіне культуры матэрыяльнай суверэнітэт сам становіцца ўмовай адраджэння і стабілізацыі беларускай нацыянальнай эканомікі.

Так звязваюцца паміж сабою нацыянальная культура і суверэнітэт, і так яны ўзаемадзейнічаюць у працэсе адраджэння беларускага народа, яго дзяржаўнасці і яго культуры.

**Мікола КРУКОЎСКІ.**

---

*"Беларускае мастацтва гістарычна фарміравалася крыху інакш, чым іншыя нацыянальныя культуры. Беларусь была месцам пастаяннага абмену культур, інтэрнацыянальныя працэсы праходзілі тут значна больш інтэнсіўна, і гэта магло б стаць гістарычнай альтэрнатывай, якая гаворыць аб тым, што не варта перабольшваць значэнне нацыянальных культур. Нацыянальная культура — гэта таксама пэўная сістэма, а ўсякая сістэма мае свае рэсурсы, якія здольны трансфармавацца ў іншыя формы. Мы не можам заўважыць, дзе нацыянальнае ператвараецца ў інтэрнацыянальнае і наадварот. Гэтыя два працэсы ідуць адначасова і ў розных рэгіёнах даюць розныя вынікі.*

*Нацыяналізм і адраджэнне — рэчы несумяшчальныя. Пад адраджэннем я разумею і прымаю адраджэнне чалавечага духу, сусветнай культуры, якая з'яўляецца здабыткам усяго чалавецтва. У размовах аб толькі нацыянальным адраджэнні я бачу больш слоў, чым сэнсу, бо нацыі ў тым выглядзе, як яны існавалі 70 гадоў назад, — гэта паняцце архаічнае.*

*Больш таго, паняцце нацыі, на мой погляд, сёння ў многім умоўнае — значна больш прымальнае паняцце "народ", які з'яўляецца прадуктам змяшання розных нацый, вынікам зносін людзей розных нацыянальнасцей, розных культур. У штодзённым жыцці мы маем справу з людзьмі не па нацыянальнай прыкмеце, а па рэгіянальнай. Нашы мінскія негрыцяняты — таксама частка беларускага народа. Таму і прытрымліваўся б тэрміна "полінацыянальнае адраджэнне" і выступаў бы за адраджэнне полінацыянальнай культуры. Пры такім падыходзе ўжо ніколі і ні ў кога не ўзнікалі б правакацыйныя, на мой погляд, пытанні, ці лічыць беларускай музыкай, напрыклад, творы Г. Вагнера, Я. Глебава, С. Картэса — і ў цэлым, оперу беларускага кампазітара паводле матываў п'есы замежнага аўтара. А такія пытанні, на жаль, яшчэ ўзнікаюць, што сведчыць аб небяспецы чарговай палітызацыі мастацтва. Некаторыя дзеячы культуры, ігнаруючы гістарычныя ўрокі, сёння самі выступаюць у ролі палітыкаў, навязваючы тую ці іншую тэндэнцыю развіцця. Не авалодаўшы палітычнай граматай, яны хочуць вучыць народ. А народ — гэта не толькі даярка ці рабочы, гэта і паэт, і жывапісец. Народ, які даў свету Ф. Скарыну, А. Міцкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалу, — такі народ вучыць не трэба. Трэба самім вучыцца ў такога народа".*

*Алег СОНІН,*

*беларускі кампазітар.*







# З'ЯДНАНЫЯ ЛЮБОЎЮ ДА БАГДАНОВІЧА

Заканчэнне.
(Пачатак на 1-й стар.).

**Большую частку свайго жыцця Максім Багдановіч правёў удалечыні ад роднай зямлі, ад Беларусі, духоўную повязь з якой ён адчуваў заўсёды. Дзевятнаццацігадовым юнаком ён два месяцы гасціў у Ракуцёўшчыне ў Вацлава Луцкевіча. Час гэты быў плённым для паэта. Сустрэча з Бацькаўшчынай, з яе народам аказала ўплыў на фарміраванне яго светапогляду. Жывучы тут, ён прагна ўслухоўваўся ў вясковыя песні, запісваў прымаўкі, захапляўся гукамі роднай мовы.**

**У родным краю ёсць крыніца**
**жывой вады.**
**Там толькі я магу**
**пазбыцца**
**Сваёй нуды.**

**Падобна, што менавіта ракуцёўшчынскія мясціны ўяўляліся паэту, калі пісаў ён гэтыя радкі. Некалькі гадоў назад каля крынічкі, якую любіў Максім Багдановіч, устаноўлены камень, на ім і высечаны гэтыя радкі. Каля крынічкі быў першы прыпынак тых, хто сабраўся на музычна-паэтычнае свята, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Пакланіцца запаветнаму куточку беларускай зямлі, звязанай з дарагім імем паэта, прыехалі пісьменнікі, прафесійныя і самадзейныя артысты, госці з Літвы і Украіны, людзі, з'яднаныя любоўю да паэта.**

**Пра жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча гаварылі пісьменнікі Васіль Зуёнак, Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Сяргей Законнікаў і іншыя. Многія вершы паэта пакладзены на музыку, бо ў іх яго сардэчная споведзь, яго боль і сум па светлай будучыні сваёй зямлі, якую ён апяваў. Песні "Зорка Венера", "Слуцкія ткачыхі" сталі народнымі. Песні на паэтавы шчырыя словы на свяце гучалі паўсюдна.**

**І яшчэ адна знамянальная падзея адбылася ў гэты дзень у гасціннай Ракуцёўшчыне. Недалёку ад абноўленай хаты, у якой жыў Максім Багдановіч у тое памятнае лета, устаноўлены прыдарожны крыж. На тым самым месцы, дзе быў выкарчаваны ў пачатку 20-х гадоў мясцовымі атэістамі, куды любіў прыходзіць паэт. Абрад асвячэння здзейсніў свячэннік Мінскага кафедральнага сабора, настаяцель Кацярынінскай царквы. А побач з крыжам пасадзілі маладзенькія клёны.**

**Здымкі зроблены фотакарэспандэнтам М. ЖЫЛІНСКІМ на свяце ў Ракуцёўшчыне. На верхнім — паэт Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# МУЗЫКА І ФІЛАТЭЛІЯ

Сярод філатэлістаў Беларусі вельмі папулярная музычная тэматыка на знаках паштовай аплаты. Сярод экспанатаў апошніх філатэлістычных выставак у Мінску і Магілёве неаднаразова можна было бачыць цікавыя калекцыі, прысвечаныя народным танцам, кампазітарам, опернаму мастацтву, выдатным спевакам і музычным інструментам. Усе без выключэння калекцыі вельмі цікавыя і змястоўныя. На сёння ўсё большую ўдзельную вагу ў выпусках усіх краін свету набывае матыў — музычныя інструменты, які трактуецца і ў этнаграфічным плане, і ў святле гісторыі інструментаў. Усе гэтыя выпускі і дазваляюць калекцыянерам ствараць арыгінальныя тэматычныя экспазіцыі. На жаль, у іх вельмі мала матэрыялаў, звязаных з Беларуссю. Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя А. Луначарскага заснавана ў 1932 годзе. Новы будынак кансерваторыі, узведзены ў пасляваенныя гады, паказаны на мастацкім канверце, выпушчаным у 1965 годзе. Яшчэ адзін канверт нашай пошты, выдадзены ў 1989 годзе, адлюстраваў на сваім малюнку музычную навучальную ўстанову. Канверт быў створаны да 70-годдзя дзіцячай музычнай школы № 1 імя М. Рымскага-Корсакава ў Магілёве.

Ураджэнцу Магілёва, савецкаму спеваку, народнаму артысту РСФСР, прафесару С. Мігаю прысвечаны паштовы канверт з яго партрэтам. З Беларуссю быў звязаны толькі ў 1905—1914 гадах, калі прымаў актыўны ўдзел у рабоце Магілёўскага літаратурна-музычнага гуртка. Вось, бадай, і ўсе філатэлістычныя матэрыялы, якія могуць нешта расказаць аб музычным жыцці рэспублікі. Ёсць у Беларусі (і былі) вядомыя на ўвесь свет спевакі і кампазітары, хоры і танцавальныя калектывы, праводзяцца музычныя фестывалі, але нічога гэтага не знойдзеш на паштовых выпусках. Праўда, у канцы 50-х гадоў былі выдадзены канверты, на якіх паказаны беларускія танцы "Юрачка" і "Бульба", а ў 1958 годзе на Мінскім паштамце прымяняўся спецыяльны штэмпель, прысвечаны тыдню балгарскай музыкі ў Беларусі. Але гэтыя выпускі не адыгрываюць вялікай ролі ў тэматычных калекцыях.

Зацікавіў філатэлістаў выпуск 15 канвертаў 1974—1975 гадоў, вядомы пад назвай "Калашнікаўская серыя музычных інструментаў".

Мастак А. Калашнікаў стварыў серыю маленькіх графічных шэдэўраў, змясціўшы на кожным канверце своеасаблівую кампазіцыю найбольш характэрных музычных інструментаў адной з саюзных рэспублік. Пры гэтым ён скарыстоўваў матэрыялы багатай калекцыі інструментаў Дзяржаўнага цэнтральнага музея музычнай культуры імя М. Глінкі. (Адзначым тут жа, што на канвертах назва музея паказана няправільна — "Музей імя М. І. Глінкі"). Мастак адлюстраваў народныя інструменты на фоне нацыянальных арнаментаў.

На фоне арнамента зялёнага колеру паказаны беларускія музычныя інструменты. Адразу звяртае на сябе ўвагу ліра — струнны інструмент з бясконцым смычком у выглядзе кола. Ліра (рыля, лера) бытавала на Украіне і ў Расіі. З X стагоддзя яна вядома ў Еўропе пад назвай арганінструм. У Беларусі ліра з'явілася на рубяжы XVI—XVII стагоддзяў, выключна як музычны інструмент жабракоў.

Побач з ліраў — цымбалы, прадстаўленыя ў музеі сучаснай мадэллю. Звесткі аб цымбалах маюцца ў дакументах XVI стагоддзя. Наступны інструмент, паказаны на канверце, — дудка, беларускі народны духавы музычны інструмент. Вельмі стары інструмент, найбольш ранняя археалагічная знаходка дудкі на тэрыторыі Беларусі адносіцца да другой паловы II тысячагоддзя да н. э. На заднім плане малюнка — скрыпка і бубен — абавязковыя ўдзельнікі вясельных абрадаў. Скрыпка, вядомая ў Беларусі з XVI стагоддзя, суправаджала многія сямейныя і каляндарныя абрады. Ужо ў XVI стагоддзі ў многіх беларускіх гарадах існавалі цэхі скрыпачоў; у XVIII стагоддзі скрыпкі выкарыстоўваліся ў прыгонных аркестрах, з XIX стагоддзя — у гарадскіх. Бубен у Беларусі распаўсюджаны паўсямесна, выкарыстоўваецца ў розных ансамблях як рытмічны інструмент.

З 1989 года Міністэрства сувязі СССР пачало выпуск цікавай серыі марак, разлічанай на некалькі гадоў — "Музычныя інструменты народаў СССР". У першым выпуску — чатыры маркі з адлюстраваннем народных інструментаў Расіі, Украіны, Узбекістана і Беларусі. Маркі надрукаваны глыбокім друкам у спалучэнні з металаграфіяй. Да выхаду марак прымеркаваны выпуск канверта "Першы дзень" і спецыяльнага штэмпеля.

Беларускія народныя інструменты на марцы прадстаўлены практычна тымі ж відамі, што і на канверце 1974 года за выключэннем басэтлі, якая паказана на пярэднім плане маркі. Басэтля (басоля) — народны струнны інструмент, блізкі да віяланчэлі. Распаўсюдзілася ў Беларусі ў XVIII стагоддзі, бытавала на Гродзеншчыне, у заходніх раёнах Брэстчыны. Цяпер амаль знікла з ужывання. Марка ўпрыгожана беларускім нацыянальным арнаментам.

Беларускія калекцыянеры, аматары музычных філатэлістычных выпускаў, спадзяюцца, што ў бліжэйшы час яны папоўняць свае калекцыі новымі маркамі, канвертамі і паштовымі карткамі, прысвечанымі беларускім спевакам, музыкантам, артыстам, кампазітарам.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## *МЕЦЭНАЦТВА ДАБРЫНІ*

У Іваца̀вічах створаны філіял Сусветнага фонду місіі міласэрнасці "Навука, рэлігія, медыцына—Чарнобылю".

Заснавальнікамі гэтай грамадскай арганізацыі з цэнтрам у Гомелі з'ўляюцца Аўстралійская хрысціянская місія міласэрнасці "Расія", Англійская армія выратавання, шэраг іншых дабрачынных арганізацый многіх краін свету, а таксама больш за 20 буйнейшых прадпрыемстваў і арганізацый Гомеля.

Віцэ-прэзідэнт філіяла Валерый Стасевіч падкрэсліў, што галоўная задача — аказанне эканамічнай, сацыяльнай і гуманітарнай дапамогі насельніцтву тэрыторый, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

## *З ТАНЦАМІ ПА НАРВЕГІІ*

Нядаўна народны ансамбль танца "Сенніца" Сенненскага сельскага Дома культуры Мінскага раёна і музычная група "Бараўлянскі гармонік" творчай фірмы "Светач" Мастацкага фонду БССР вярнуліся з паездкі ў Нарвегію, дзе прымалі ўдзел у Днях культуры Беларусі.

На пеўчым полі ў г. Стыклісце ў гонар вядомага караля Нарвегіі Олафа II Святога праходзіла прадстаўленне. Перад яго пачаткам нашу дэлегацыю прадставілі гледачам, якія віталі яе апладысментамі. Крыху пазней на гэтай пляцоўцы адбыўся і канцэрт.

Наша канцэртная праграма ў асноўным складалася з беларускага рэпертуару: "Сенніцкая заліхвацкая", "Вясковая", вакальна-харэаграфічная карціна "Жаніцьба Цярэшкі", а таксама Сюіта рускіх танцаў і ўкраінскі гапак. На нарвежскай сцэне адбылася і прэм'ера танца "Дзятлы", які выканала мужчынская група ансамбля. Мастацтва танца, як і музыка, не патрабуе перакладу. Канцэрты праходзілі на вялікім творчым уздыме.

У апошнія дні знаходжання ансамбля ў Нарвегіі адбылася творчая сустрэча з мясцовым фальклорным калектывам. Развучвалі нарвежскія танцы, а нарвежскі калектыў, у сваю чаргу,— нашу "Лявоніху", "Крыжачок", польку.

Левангер, Індрэй, Стыкліст, Трандхейм, Намсул — вось гарады, дзе пабываў і паказаў сваё мастацтва нарвежскаму гледачу наш беларускі калектыў.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК,
ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97,
33-02-80, 33-03-15, 33-16-56,
33-07-82.

Газета аддрукавана
ў друкарні
"Беларускі Дом друку"
Індэкс 63854. Заказ № 1390.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12